


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

13 КАСТРЫЧНІКА 2000г. № 41/4073 КОШТ 100 РУБ.





# Лошыцкая восень




На працягу жыцця аднаго пакалення Мінск — горад, які калісь можна было ахапіць вокам, стоячы на Траецкай гары (цяпер на той гары — Оперны тэатр), ператвараецца ў мегаполіс, які непасрэдна ўцягвае ў сваю структуру ці не палову Беларусі. Гэта, так бы мовіць, наступствы некіруемай урбанізацыі. Што ж датычыць прыгарадных вёсак, дык яны даўно сталі гарадскімі раёнамі, іншы раз захаваўшы нават свае гістарычныя найменні. Вось і Лошыца — цяпер паўднёвая ўскраіна сталіцы.

Лошыца славутая сядзібаю XIX стагоддзя і паркам. У сядзібе пэўны час месціўся Навукова-даследчы інстытут бульбаводства. У 80-х гадах яна перададзена Дзяржаўнаму мастацкаму музею. З таго часу тут працуюць археолагі, рэстаўратары. У сядзібе меліся зрабіць музей культуры і мастацтва рубяжа XIX-XX стагоддзяў. Ужо закупляліся экспанаты, рыхтавалася экспазіцыя, ужо праводзіліся экскурсіі. Нядаўна на сядзібу паклалі вока гарадскія ўлады. Вырашана: тут будзе рэстаўрацыя! Наўрад ці Нацыянальны мастацкі музей здолее захаваць сядзібу за сабой. Але супрацоўнікі музея яшчэ не пакінулі Лошыцу...

**П. В.**



*Фота М. ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***Паслязаўтра — выбары. Рана гаварыць, як яны пройдуць, якая колькасць выбаршчыкаў рэалізуе сваё грамадзянскае права выбіраць. Зрэшты, працэнт удзелу іх у выбарах можа быць і досыць высокі — хоць бы за кошт датэрміновага галасавання, якое пачалося паўсюдна ў аўторак і набыло проста-такі масавы характар — людзі галасуюць з прычыны і без прычыны. Сама ж выбарчая кампанія праходзіла і праходзіць вяла. Куды там — нельга не згадаць! — да ўздыму, узнёсласці, ажыятажу, шумных сходак і палкіх спрэчак кандыдатаў-сапернікаў падчас першых дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет 1990 года! Змізарнела, субожылася з тае пары наша жыццё, і гэта наклала свой адбітак на ўсё. Справядліва мовіцца: якія самі — такія й сані. Адзін красамоўны факт. Сярод амаль шасцісот прэтэндэнтаў на месца ў палацы — толькі адзін прадстаўнік калісьці актыўнага, нават баявітага атрада творчай інтэлігенцыі краіны. Сёння актыўнічаюць — іншыя. Мо і добрыя самі па сабе людзі, аднак цяжка сказаць, што іх паклікала, падштурхнула на такі крок. Многія выяўляюць поўнае неразуменне сваіх будучых абавязкаў і дзейнасці. У выніку прамовы, клятвы і абяцанні кандыдатаў працуюць хутчэй не "за", а "супраць" іх.***

### ПЛОШЧА ТЫДНЯ

І мінчукоў, і гасцей беларускай сталіцы не адзін год бянтэжыла двайное імя адной з галоўных плошчаў Мінска. Сама плошча з пачатку 90-х гадоў носіць горде імя — Незалежнасці. А вось назва станцыі метро пад ёю заставалася ранейшай — "Плошча Леніна". Зараз, нарэшце, прынята рашэнне памяняць старыя шыльды і ў метро: на станцыі і ўказальніках паявіцца рэальная назва — "Плошча Незалежнасці". Даўно пара! А заадно час падумаць і пра выпраўленне іншых падобных недарэчнасцей, што засталіся нам у спадчыну ад савецка-камуністычнай улады...

### ЧЭМПІЁН ТЫДНЯ

На 110 месц у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прэтэндуе 566 кандыдатаў. Значыць, у сярэднім у кожнай акрузе балатуецца амаль па 6 кандыдатаў. Чэмпіёнам жа аказалася Лагойская выбарчая акруга N 83: тут ажно 11 (адзінаццаць!) "шукальнікаў шчасця". Якім мёдам "памазана" гэтая акруга? Ды, бадай, адзінам: спакусіла кандыдатаў блізкасць ад сталіцы — усяго нейкіх 35 кіламетраў. Вось і паляцелі туды, як мухі на мёд. Каму ж пашчасціць?

### ТЭЛЕГРАМА ТЫДНЯ

Заўтра — Пакровы. Па народных традыцыях, да гэтай пары ўсё павінна быць зжата, скошана, выбрана, звезена, складзена, бо можа і снег выпасці. Аднак гэтак было даўно. Цяпер жа напярэдадні Пакроў прэм'ер-міністр разаслаў тэлеграму старшыням аблвыканкамаў, райвыканкамаў і кіраўнікам органаў дзяржкіравання з патрабаваннем паскорыць уборку кукурузы і іншых позніх кармавых культур, бульбы, буракоў, капусты, морквы, кармавых караняплодаў, пад'ёму лёну.

Тэлеграма гэтая міжволі нагадала, што жывём мы ўсё яшчэ за колішнім савецкім часам, што ў нашай сельскай гаспадаркі гаспадара па-ранейшаму няма. Бо ці ж трэба сапраўднаму гаспадару напамінаць, а тым больш загадваць, калі ўбіраць вырашчаны ўраджай?!

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Ці многія з нас, беларусаў, ведаюць, памятаюць, чым адметны для нас дзень 10 кастрычніка 1939? Тым днём паміж СССР і так званай буржуазнай Літвой быў падпісаны "Дагавор аб перадачы горада Вільні і Віленскага краю і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой", паводле якога Вільня і край былі забраны ад Беларусі і перададзены Літве. А пасля валі Сталін гэткім жа чынам аддаў Польшчы Беласточчыну. І аказалася Беларусь, краіна-пераможца ў вайне з фашызмам, адзінай, якая нічога не прыдбала ў выніку перамогі, а толькі страціла. Калісьці паэт назваў родны край "забраным краем". Зараз ён нібыта не забраны, мае статус незалежнага, а вось абрабаванным так і застаўся...

### ДАМОВА ТЫДНЯ

На сустрэчы ў Алматы прэзідэнты Расіі, Беларусі, Казахстана, Кіргізіі і Таджыкістана падпісалі дамову аб усталяванні замест Мытнага саюза Еўра-Азіяцкай эканамічнай супольнасці (ЕўрАзЭс). Па словах У. Пуціна, — гэта якасна новы інструмент прыняцця эканамічных рашэнняў у рамках пяці дзяржаў. А на пытанне аб тым, якія плюсы новая структура дасць Беларусі, А. Лукашэнка адказаў, што плюс будзе адзін: "Мы перастанем перашкаджаць вытворцам перамяшчаць тавары". Дай Бог чутае бачыць! Бо столькі заключалася і падпісвалася краінамі СНД дамоў і пагадненняў, а карысці пакуль што з усіх іх было надзвычай мала.

### АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Вядомая ў краіне лабараторыя аксіяметрычных даследаванняў "Новак" правяла чарговае сацыялагічнае апытанне. Спецыялісты пацікавіліся, як, на думку рэспандэнтаў, павінен вырашацца канфлікт палітычных сіл у Беларусі. 52,9 працэнта апытаных упэўнены, што гэты канфлікт павінны развязаць самі беларусы. 10,6 працэнта пакінулі такое права за Расіяй, на карысць Захаду выказаліся 6,3 працэнта апытаных. І толькі 8,1 працэнта рэспандэнтаў мяркуюць, што ніякага канфлікту ў краіне наогул няма.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Свой 10-гадовы юбілей адзначыла "Народная газета" — дзіця перабудовы і незалежнасці. "ЛіМ" і лімаўцы далучаюцца да віншаванняў і добрых зычэнняў калегам з юбілейнага выдання. Аднак жа, не ў крыўду будзе ім сказана, юбілей гэты наводзіць і на сумныя думы, на настальгічныя згадкі аб тым, што — "раньш было", а цяпер — няма...

### РЭГІЁН ТЫДНЯ

Дагэтуль так і не апублікаваны канчатковыя вынікі леташняга перапісу насельніцтва. А між тым яны высвечваюць многія надзвычай цікавыя, часам проста унікальныя факты і з'явы. Днямі ў друку з'явіліся паасобныя лічбы перапісу, якія характарызуюць стан насельніцтва Століншчыны. Лічбы наводзяць на роздум, уражваюць і здзіўляюць. Вось сумная статыстыка: калі дзесяць гадоў назад колькасць дзяцей ва ўзросце да 4-х гадоў складала на Століншчыне 7402, дык на час перапісу іх было на тысячу менш. Чацвёртая частка жыхароў раёна пераступіла працаздольны перыяд жыцця, а ў вёсках наогул працаздольных менш за палову. А вось лічбы іншага плана. У раёне амаль 4 тысячы чалавек маюць вышэйшую адукацыю і прыкладна столькі ж не маюць нават пачатковай, а 670 чалавек — наогул непісьменныя. Самы "адукаваны" ў раёне Давыд-Гарадок — тут 412 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, затым ідуць рабочы пасёлак Рэчыца (342, сам Столін (213), вёска Альшаны (146) і вёска Рубель — 97 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. І, нарэшце, яшчэ адзін красамоўны факт. Амаль палова насельніцтва Століншчыны — 42 тысячы чалавек — атрымлівае даходы з дзвюх і трох крыніц. Адным словам, ведай нашых!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У адкрыцці памятнага знака ў памяць пра ахвяры атамных бамбардзіровак у Хірасіме і Нагасакі, а таксама чарнобыльскай катастрофы на плошчы каля Чырвонага касцёла прынялі ўдзел святары, навукоўцы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Да высокай духоўнасці, да міру і згоды заклікалі прысутных, а іх было нямала, і пісьменнікі. Свае вершы чыталі Сяргей Законнікаў і Навум Гальпяровіч.

●

Пісьменнікі з Масквы стануць гасцямі на наступным тыдні нашай творчай арганізацыі. Узначаліць групу калег па пяры вядомая паэтка і перакладчыца першы сакратар СП Масквы Рыма Казакова. Госці сустрэнуцца ў Доме літаратара з беларускімі калегамі, наведаюць мемарыяльны комплекс Янкі Купалы ў Вязынцы, выступяць перад студэнтамі факультэта журналістыкі БДУ, будуць прыняты ў Міністэрстве замежных спраў. Пленам трохдзённага знаходжання дэлегацыі стане паэтычная вечарына дружбы, якая адбудзецца 19 кастрычніка ў Доме літаратара і падрыхтоўка сумеснай кнігі расійскіх і беларускіх творцаў.

Наш творчы саюз наладжвае стасункі не толькі з маскоўскімі літаратарамі, ёсць кропкі сутыкнення ў творчым супрацоўніцтве з Міжнароднай супольнасцю пісьменнікаў, расійскім Саюзам пісьменнікаў, Саюзам пісьменнікаў Расіі.

**Н. К.**

## "Сто гадоў — сто асоб"

На мінулым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне секцыі публіцыстыкі і нарыса.

Члены бюро секцыі абмеркавалі кнігу прозы Адама Выгодскага (Вячаслава Зайцава) "Сузор'е дабрыні", выдадзеную "Беларускім кнігазборам". Добрае слова ў адрас маладога аўтара сказалі У. Глушакоў, В. Праўдзін, У. Ліпскі, Я. Каршукоў, Н. Гальпяровіч і іншыя. Праца адказным сакратаром раённай газеты "Край Смалявіцкі" дала Вячаславу Зайцаву галоўнае — веданне жыцця вясковага працаўніка. У прадмове да кнігі пісьменнік Леанід Дайнека высока ацаніў мастацкую вартасць кнігі.

Вячаслаў Зайцаў рэкамендаваны для прыёму ў Саюз пісьменнікаў.

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі і план работы секцыі на 2001 год.

Прапанавана ўключыць у рабочы план падрыхтоўку і выданне кнігі нарысаў пра самых знакамітых беларусаў за апошняе стагоддзе: "Сто гадоў — сто асоб".

**Я. ІВАНОЎ**

# Пісьменнік — кандыдат у дэпутаты

Сталася так, што адзіным прадстаўніком творчай інтэлігенцыі, у якога ёсць жаданне стаць дэпутатам, з'яўляецца дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", пісьменнік Георгій Марчук. Ён балатуецца ў сталіцы па выбарчай акрузе N 105. Ягонымі асноўнымі сапернікамі тут сталі начальнік упраўлення адукацыі мінскага гарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў, першы сакратар Партыі камуністаў Беларусі Сяргей Калякін і член Камуністычнай партыі беларускай Геральд Маньшын. Пісьменнік лічыць, што ў будучай Палаце прадстаўнікоў абавязкова павінен быць чалавек ад культуры, і збіраецца пры ўдалым для сябе выніку галасавання ўзначаліць камітэт па культуры. Г. Марчук давconfigures дзіць, што, нягледзячы на тое, што многія ягоныя калегі свядома вырашылі не балатавацца, ён верыць, што новы склад Палаты прадстаўнікоў не будзе аморфным.

Георгій Марчук быў адным з 3 кандыдатаў у дэпутаты, хто ў спецыяльнай праграме на БТ "Выбары-2000" выступаў па-беларуску. У сваёй праграме пісьменнік звяртаецца да выбаршчыкаў са словамі, што, калі ты даверыць яму свае галасы, ён прыкладзе ўсе намаганні, каб парламент праводзіў палітыку "выключна ў інтарэсах суверэнітэту Беларусі" і супраць "духоўнага заняпаду нацыі". Не чужы для пісьменніка і клопат пра "дастойную аплату працы бюджэтнікаў" і "кантроль над цэнамі на харчаванне і жытло". Хочацца пажадаць Георгію Марчуку стаць дэпутатам Палаты прадстаўнікоў і працаваць у ёй на карысць Беларусі.



**Н. К.**

# Няхай жыве Траецкі кірмаш!

7 кастрычніка ў Траецкім прадмесці адбыўся чарговы кірмаш майстроў народнай творчасці Баранавіцкага раёна. Майстроў і народных умельцаў шчыра і сардэчна прывітаў старшыня Фонду беларускай культуры У. Гілеп. Да яго далучыліся вядомыя дзеячы на ніве народнай культуры прафесар Я. Сахута, пісьменнік Н. Гальпяровіч. У сваім выступленні намеснік старшыні Баранавіцкага выканкама Б. Пацейка патлумачыў аб'ектыўныя прычыны нешматлікага прадстаўніцтва народных умельцаў, але тыя, што прыехалі на свята ў сталіцу, ганарова прадстаўлялі свой раён. Пад дэвізам: "Фарбы роднай зямлі" ўслаўлялася баранавіцкая зямля. Народныя майстры дэманстравалі свае вырабы з саломкі, дрэва, гліны, лазы, іншых мясцовых матэрыялаў. Асабліва вылучыліся майстрыха адмысловай вышыўкі гладдзю Клаўдзія Варвашэвіч з п. Мірны — удзельніца рэспубліканскіх іміжнародных фестываляў і выстаў, уладальніца шматлікіх дыпломаў. Яна гэтай справай займаецца з дзяцінства, як і яе мама Васіліса Занько — мастак у ткацкіх справах, але гэта цяга да творчасці ідзе ад бабулі. Зайздросная пераемнасць!

Прыемна ўразіў вучань сельскагаспадарчых ПТВ N 156 Вадзім Герко талентам прыроджанага жывапісца. Здзіўляла сваім ткацтвам і паясамі рухавая, гаваркая Еўдакія Буяк, нягледзячы на свае 74 гады. Словам, вырабы народных майстроў засведчылі і таленавітасць, і густ, і працавітасць людзей Баранавіцкага раёна.

Усё гэта аздаблялася мастацкай самадзейнасцю. З прысмакаў Баранавіцкай зямлі вельмі даспадобы прыйшоўся наведвальнікам кірмашу духмяны каравай, якім шчодра частаваў усіх ахвочых У. Гілеп.

**Яўген АДАМОВІЧ**







*На здымках: моманты кірмашу.*

**Фота У. КРУКА**

Вячаслаў АДАМЧЫК

# Пералетаваўшы лета

## ФРАГМЕНТЫ З ДЗЁННІКАЎ



СОНЦА ледзьве праглядвае праз шматслойныя хмары. І там, у вышыні, сінее азярынка неба, як даўночаканая радасць. Люстраны бляск мокрых дахаў. Купы жоўтых ясеняў з гарадскіх двароў свецяць у маё акно. Распырскваючы лужыны, у завулку юрліва шмыгаюць чырвоныя, блакітныя і цёмныя форды з опелямі. А ў мяне — адчуванне нездароўчасці, гнятлівы, невыразны настрой. Сумую, як варона, што прыгорбілася на тэлеантэне. Аднак быў час, калі я любіў шапаткі вераснёвы дождж і адзіноту на пясчанай дарозе.

Сваё не пішацца. Перачытваю нататкі Танка з яго падарожжа вакол Еўропы, дзе так прылежна, па-школьнаму пазначаны назвы ўсіх караблёў, што праплылі міма яго цеплахода, і прыгадваю сваё пілігрымства ці, праўдзівей, дарогу ў дрыготкім таварным вагоне з дашчанымі нарамі на тады патрыятычна-знакамітую цаліну. І бачу той палявы стан — дамкі на колах і злінялыя палаткі — недалёка ад перасохлай рэчкі Табол у вадзяніста-мройным казахстанскім стэпе з чорнымі жаваранкамі і рахманымі арламі.

Там праз тыдняў два, недзе ўжо на пачатку верасня, калі дужы прымаразак апаліў кукурузнае поле, мы, беларускія студэнты, пачулі нарэшце пра смерць Якуба Коласа.

Той 1956 год выдаўся годам майго галадавання: я занёс у скупачную і прадаў за бясцэнак новую кашулю, набытую за зароблены на цаліне мізэрны грош. Але гэта быў год і майго нецярплівага спадзявання на светлыя, благаслаўлёныя перамены: у часопісе "Беларусь" мелася быць надрукавана падборка маіх вершаў, а ў "Маладосці" чыталася мая спроба ў прозе — апавяданне "Зоня".

Вось так, зблудзіўшы на чужую дарогу, пачынаеш шукаць сваю. А яна ўжо сцелецца, як мілы, шчымлівы ўспамін.

❑

Ці першы раз ужо здымаю з паліцы светлы, пабіты карычняватаю рабізною том Івана Буніна. І вось — 1939 год. Узрывы бомбаў, крывёю, пажарамі апалена і паліта зямля — бушуе, стогне, раве другая сусветная вайна. Знявечана Польшча, зруйнавана Варшава, Сталін дайшоў да Беластока, а ў дзённіках велешаноўнага Яна — шматкалёрныя матылькі, змены надвор'я, якія ён чуе з павучлівою чуйнасцю.

Пішу і тут жа лаўлю сябе: а можа, і мы сёння не заўважылі таго, што абярнулася для чалавецтва найвялікшым горам.

❑

За вячыстым дубам, за цёмнаю наміткаю лесу пагрозліва ўздымаецца папялова-сіняя хмара. Трапятліва жахае маланка, а за нашаю ржаваю жалезнаю брамаю, у аўсе, спадцішка падказвае перапёлка: спаць пара, спаць пара.

Валянцін Тарас. Бутэлька між намі. Успаміны пра даўнае. Як мы заўчасна пастарэлі і як далёка адышлі ад таго, што ўзгадвалі.

❑

Учора пад сляпучы сполах маланкі і разломны грукат перуна — "Хаджы-Мурат" Льва Талстога. Гэты мілы, заўсёды прываблівы для мяне пачатак: "Я возвращался домой полями... И мне вспомнилась давнишняя кавказская история, часть которой я видел, часть слышал от очевидцев, а часть вообразил себе.

...Это было в конце 1851 года".

❑

Які ўжо раз разгортваю Германа Гэсэ, — публіцыстыка, рыторыка, прыўзнятасць, рознакаляровы калейдаскоп стылю, хараство надуманасці.

Кніжку акуратненька стаўлю ў шчытную шарэнгу недачытаных. Можа, і несправядліва на гэты раз.

❑

Талстому было пад семдзесят, калі ён вярнуўся да "Хаджы-Мурата". Каб мне ў яго гады пераадолець сябе і зрушыць з месца хоць бы адну з задуманых аповесцяў. Якое гэта было б неўгаданае шчасце.

❑

Каўказская ні тады, ні сёння не новая вайна. Падзеі, як піша Талстой, у Вялікай Чачні. Я чытаю яго "Высечку лесу" — апавяданне юнкера, напісанае рэалістычна, выразнымі шматкалёрнымі мазкамі.

Дзівішся, як выстаяў, выжыў чачэнскі народ, спазнаўшы столькі гора, смерцяў, пажараў, гвалту, як ён яшчэ ўпарта і нязломна да сённяшніх дзён ратуе і беражэ сваю свабоду і незалежнасць.

❑

Гутарка Уладзіслава Хадасевіча з Горкім пра запальнічкі, як у мяне з нябожчыкам Алесем Звонакам пра самаробнае віно.

❑

У Яўгенія Лебедзева, вядомага актора, ёсць апавяданне, як мне падалося, аўтабіяграфічнае, а ў ім — фраза: "У клубе ішла карціна "Кубанскія казакі", пасля кожнай часткі — малы перапынак, перазарадка апарата. На вуліцы стаяў дзвіжок (электрарухавік) і чуваць было, як глуха лапатаў матор". А мне ўбачылася зацішная ў сасняку Навальня, былы яўрэйскі драўляны дамок на высокім падмурку, дзе пры пасялковым савеце размясціўся клуб, людны вечар, лопат у кінапраектары кінастужкі, нясцерпная духата, мы, падлеткі, на адчыненых вокнах... Помніцца фільм "У шэсць гадзін вечара пасля вайны".

❑

Разгортваю Купалаў томік і спатыкаюся аб тыя вядомыя строфы, якім калісьці не надаваў належнай увагі і значнасці:

*Мне бацькаўшчынай цэлы свет,*
*Ад родных ніў я адвярнуўся...*
*Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:*
*Мне сняцца сны аб Беларусі!*

Гэта быў ужо купалаўскі палёт у раздвоенасці, у снах і на яве, палёт ад сваіх ніў у бязмежнасць.

Знявераны, упалы душою і аграблены з гонару, збялелы паэт накладвае на сябе рукі, каб яшчэ выжыць. Так судзіў Бог. Але існаваць у раздвоенасці, у фальшы і махлярстве, з вершамі, на якія зблудзіўся і на якія спакусіў д'ябал, Янка Купала, вядома, не мог. І пачаўся ўжо астатні, завяршальны палёт, як на яве, так і ў сне, у глыбокі калодзеж вечнай нематы і цемнаты і адначасна... просьбы літасці і даравання за незнарок учынены грэх, адплатай якому мусіць быць смерць.

Страшна, аднак, калі думаеш пра таямнічы і неразгаданы лёс Купалы. І ці яго аднаго?...

❑

У беларускім трохкутніку Нясвіж—Наваградак—Зецяла (Дзятлава), дзе поруч з залацістым, запалавелым жытам красуе яшчэ і залацістае роднае слова, бессмяротнаму Адаму Міцкевічу папярэднічалі яшчэ тры паэты: Францішка Уршуля Радзівілова, жонка віленскага ваяводы і гетмана літоўскага, заснавальніка тэатра ў Нясвіжы Міхаіла Казіміра Радзівіла, народжаны ў Зецялі (Дзятлаве) Удальрык Крыштоф Радзівіл, менаваны канюшым Вялікага княства Літоўскага, а пазней — генеральны рэгіментар (наместнік гэтмана) войска літоўскага, даволі плённы літаратар і перакладчык Сафокла, і нарэшце — сатырык Станіслаў Самуэль Шэмет родам дзесьці са Слонімшчыны і памерлы (1684) у Жалезніцы на Навагрудчыне.

Нікім не заўважаны Паўлюк Багрым з Крошына над Шчарою, аўтар вядомага нам адзінага верша, хоць у паэтаў аднаго верша не бывае, ішоў ужо ад Міцкевіча і бясспрэчна ад беларускага найбагацейшага скарбу — фальклору. А з яго ўжо нараджаліся ўсе "ігрышчы" — сатырычна-гумарыстычныя вершаванні, якія можна было нараспеў чытаць пад бубен, цымбалы, дуду альбо скрыпку.

Гэтыя чытанні пад зялёна-перламутравы гармонік заспеў і я. Як і іхніх аўтараў — паэтаў-самавукаў. Гэта былі ўжо самотныя постаці нашага вясковага барока.

❑

Кніжка арэшкавага колеру і кішанковага фармату — Уладзіслаў Рэймант. Яго лісты да перакладчыка "Сялянаў" француза Shoella. У іх — астатняя скарга ў астатнім пісьме: "Хварэю цёнгле (штодня) і нават пісанне прыходзіць з пэўнай цяжкасцю. Сёння памёр Жэромскі... Памёр на сэрца. Быў на пару гадоў старэйшы за мяне, але меў шалёную волю жыцця і энергію... Цяпер надышла пара майго памірання". Прафесар Shoell атрымаў рэймантаўскі ліст ужо на другі дзень па смерці аўтара знакамітага рэалістычнага рамана "Сяляне".

На яго польскіх старонках я таксама вучыўся пісаць нашыя беларускія тыпы, бо і яны былі не менш каларытныя за сялян з-пад Лодзі.

❑

У старым "Новом мире" напаткаў артыкул "Катынскія галасы" і часопіс адкладваю на тумбачку. Гэта ўжо на вячэрняе чытанне.

Перагортваю і "Запісы ваенных гадоў" Марыі Валошынай, якія, вядома, пераглядаў і, помніцца, ускокваў ад радасці і хвалявання — яны так уразілі мяне.

Зазірну яшчэ і ў "Стройбат" Каледзіна. Якое шчасце іншы раз вярнуцца да таго, што таленавіта. Колькі ж разоў ужо разгортваў і зачытваўся пачаткам юнацкага лермантаўскага рамана "Вадзім".

❑

Пад рукою кінасцэнар М. Антаніяні "Прафесія рэжысёр", але далей гартаць чамусьці не хочацца — да прымітыву спрошчаная, усечаная фраза. Галіны без зялёнага лісця: "Вуліца. Дзень. Паліцэйская ўправа... Панараміруючы па вуліцы, камера паказвае тоўстую жанчыну". Не дадала жывое ўцехі прачытаная ў забытым "Нашем современнике" (даўні альманах) дыскусія ці, праўдзівей, — спрэчка паміж лысенкаўцамі і генетыкамі. Як усё з цягам часу ўлеглося, забылася і як мала хто помніць сесію ВАСХНІЛ 1948 года, дзе генетыка была названа лжэнавукай.

Бог усё параўнаў, але ж і д'ябал скалечыў не адно жыццё. Нават таму ж Жэбраку, прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі, што пасмеў надрукаваць артыкул у амерыканскім часопісе. Пра што пісаў Коласу ў Кіславодск Міхась Лынькоў: "...адбыўся прэзідыум Акадэміі навук, на якім вызвалілі ад пасады Жэбрака. Шкада чалавека — усё ж, як-ніяк, сапраўдны вучоны. Але ж такую дурасць адкалоў з гэтай сваёй пісанінай, міма якой прайсці, зразумела, нельга".

Аднак, падумаўшы, як усё паўтараецца: дружба з Захадам яшчэ і сёння ў нашых родных анальфабэтаў успрымаецца як найвялікшы грэх. Тым болей, перакладзенае і надрукаванае беларускае слова.

❑

Раскалыханы ветрам-сухавеем, успенены наш узмужнелы сад. Перагонамі густы пошум і гул за акном мансарды. Выдае, што недзе блізка цяжкім зеленаватым шлейфам падае і пеніцца вада. Уздрыгвае, ліхаманкава калоціцца шэра-белаваты, закурэлы мукою драўляны млын. І гнятлівы боль у сэрцы ад гэтага ўспаміну. Іх няма ўжо, вадзяных млыноў пры рабаціністым возеры, зацененым шурпатымі старымі вербамі, з мостам, застаўкамі, зялёнымі, аброслымі ціною каменнямі, аб якія разбівалася і кіпуча пенілася наша хатняя рака. А як шкода тых даўнейшых млыноў на два камяні і крупадзерняю ці шатроўкаю. А як помніцца тое дрыготкае карытца, з якога ў падвешаны мех плыла рыжавата цёплая і слізкая мука. І як выразна бачыцца той бясконцы абоз сялянскіх фурманак, наладаваных белымі і поўнымі, як сытыя япрукі, палатнянымі мяхамі. Завозна, як казалі ў нас. Асабліва пасля жніва альбо ў позную восень, калі ўсё амаль змалочана і час новага хлеба. У таго-сяго з багацейшых — шатраванага ці нават пытляванага — светлага, пры спраўнай гаспадыні-пухкага і смачнага, без закалцу. Ажно цяпер прагавіта заманулася пакаштаваць таго даўнейшага сялянскага хлеба, адрэзанага не скупой лустай ад прадаўгаватага бохана, спечанага на дубовым альбо кляновым лісці з абавязковым крыжыкам на карычневай скарынцы.

Не дзіва, што зазіраю ў зялёны том Джона Лока, каб яшчэ раз прачытаць яго параду аб карысці "добра замешанага і добра спечанага" паўбелага, як называюць варакомцы, уежнага спажыўнага хлеба.

❑

Далёкі і ўжо ледзьве не забыты верасень. Мая вячэрняя школа. Я прыйшоў у гадзін шэсць, а заняткі пачыналіся ў сем. На калідоры аднапавярховай школы, збудаванай яшчэ за польскім часам, гаварыў рэпрадуктар — тая чорная, мала ўжо каму памятная талерка. Я прыслухаўся — ішла літаратурная перадача. Дыктар чытаў апавяданне Міколы Лобана "Экзамен", надрукаванае, здаецца, у часопісе "Беларусь". Пачатку я, мусіць, не заспеў. Колькі мінула незлічаных гадоў, а мне прыгадваецца тая святочная сцішнасць, чуйная ўвага, з якою я праслухаў апавяданне незнаёмага мне аўтара. Потым у бібліятэцы пры пасялковым савеце я знайшоў яго "Іркуцянку".

Як стваралася і пісалася яна на падставе жыццёвых фактаў, хворы, блізкі ўжо да сваёй смерці Мікола Паўлавіч расказаў мне сам у Каралішчавіцкім яловым лесе.

Не помню, ці пахваліўся яму я, як у лясной, глухаватай Навальні семнаццацігадовы юнак, які таксама спадцішка марыў аб літаратурнай сцяжыне, упершыню пачуў яго імя. Калі не сказаў, то няхай даруе Бог, бо як мала пры жыцці мы гаворым адзін аднаму прыязных слоў.

❑

Аповесць пра "жоўтых каралёў" — таксістаў Нью-Йорка. І ўжо паводка ўспамінаў пра жоўтыя аўтамабілі — кэбі, гаспадарамі якіх былі часта савецкія дактары, што выехалі ў Амерыку і не знайшлі працу па спецыяльнасці, і пра багатыя, дагледжаны Манхэтан, і завалены ржавымі бочкамі, разбітымі, даезджанымі фордамі, абгарэлы, задымлены сажаю Гарлем, і пра алею Лексінгтона, і 73-ю стрыт з трыма савецкімі місіямі ў адным будынку, і пра Парк-авеню, і Бруклін, і Бронкс, і пра раскалыханы віхурным ветрам, успенены Гудзон, і шнурок адчайна высокага моста над ім, і натоўпы наркаманаў, і пра танцуючых, як цыганы, на жыватах худых, выпетраных падлеткаў, і чорных рослых прапаведнікаў-неграў у белых комжах (тогах) на трохкутным пляцы, дзе зліваюцца самыя знакамітыя артэрыі горада — Парк-авеню і Брадвей.

Не, Нью-Йорк — горад багацтва, раскошы, беспрытульнасці і галечы, цнатлівасці і ціхамірнасці, гвалту і разбою, — горад усё ж незабыўны. Убачаны здалёк, са скалістага пагорка на Гудзоне, з дзесятага ці дванаццатага паверха шэрага панельнага дома на 188-й стрыт, здаваўся мне непакорным Каўказам з грамадамі зіхатлівых горных вяршыняў. Выдавала, я ізноў стаю на Вялікім сядле за Кіславодскам і бачу панараму снежна-іскрыстага Каўказскага хрыбта. Зеленаватыя хмарадзёры-вяжоўцы нагадвалі лядовыя пікі незабыўных, зваблівых сваёй непрыступнасцю велічных гор.

❑

Пушкінскі "Медны коннік" — гэта ў нейкай долі палемічны адказ на паэму Адама Міцкевіча "Дзяды", асабліва на яе трэцюю частку, прысвечаную Расіі.

Адам Міцкевіч ператварыў у вершы тое, што ўжо жыло ў народзе: горад Пятра — тварэнне злых, шайтанскіх сілаў, і на гэты горад яшчэ ўпадзе Божы гнеў. Прароцтва збылося — у вайну, у нямецкую лютую блакаду горад гінуў ад голаду і мору.

***Рим создан человеческой рукою,***
***Венеция богами создана:***
***Но каждый согласился бы со мною,***
***Что Петербург построил сатана.***

І таму Пушкін распяшаўся з адказам:

***Люблю тебя, Петра творенье,***
***Люблю твой строгий, стройный вид,***
***Невы державное теченье,***
***Береговой ее гранит...***

Як жа далёка заходзіла спрэчка двух братніх паэтаў. Якуб Колас хацеў між імі прымірыцца. Але ж калі не ўспамінаць яго радкі: "Нас падзялілі, у нас не спытаўшы"...

❑

Пра Чэхава, пра яго жыццё, быт на Садова-Кудрынскай у Маскве, пра кандэлябры з вісюлькамі, ката Фёдара Цімафеевіча, пра кабылку Ганну Пятроўну, якую запрагалі ў саху, калі трэба было ўзараць гарод у Меліхаве, пра закаханасць Антона Паўлавіча ў гімназістку Барысенку, што выйшла замуж за маклера "по хлебной части", то ў Глафіру Панову, актрысу Малога тэатра, то як з вядомай усім Лікай танцаваў мазурку, абводзячы яе вакол сябе, ды ўсяго не перакажаш, бо напісана так шмат, што, здаецца, пражыў ён, Антон Чэхаў, не сорак чатыры, а ўсе восемдзесят два, як здароўчы Леў Талстой. Але ва ўспамінах чуецца нешта штукарскае, падробленае ці знарок прыніжанае да непатрэбных дробязяў, што выклікае непрыязь і адчужанасць.

❑

Пасля вечаровага чытання "Рабочых сшыткаў" А. Твардоўскага сніўся ён сам і яго сад, дзе я сарваў надзіва вялікі ружовы яблык. Твардоўскі спахмурнеў, але, нічога не сказаўшы, усё ж застаўся пакрыўджаны і недаволены мною.

*(Працяг на стар. 14—15)*

# "Выбранае" Яўгеніі Янішчыц

Чытачам сталага ўзросту, відаць, запомніўся нумар "ЛіМа" ад 21 верасня 1965 года. Хоць, магчыма, з цягам часу дата гэтая забылася. Памяць захавала іншае, больш істотнае і важнае. Найперш выяву дзяўчынкі, твар якой так і свеціцца ад радасці, а сама яна, ступіўшы на невялікі драўляны масток, перакінуты праз рэчку, гатова хуткакрылай птушкай узляцець да аблокаў. А яшчэ памяць захавала вершы, якім папярэднічала слова Генадзя Бураўкіна "Яўгенія Янішчыц".




Так і ўвайшла ў вялікую літаратуру будучая знакамітая паэтэса — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы Яўгенія Янішчыц. Праўда, гэта была не першая яе публікацыя ў рэспубліканскім друку. Яшчэ ў 1964 годзе часопіс "Бярозка" ў сваім 12-м нумары змясціў верш Я. Янішчыц "Зоры над Пінаю", перадрукаваны 18 снежня тым жа "ЛіМам". Але такая ладная падборка — шэсць вершаў, што з'явілася ў тым вераснёўскім нумары, гэта сур'ёзная заяўка на будучае. Ды і сама Я. Янішчыц запомніла на ўсё жыццё той незабыўны для яе момант, згадаўшы аб гэтым у вершы "Ода кладцы":

*Дарога йшла наўпрост*
*У шаснаццаць, без аглядкі.*
*А пачынаўся мост*
*З вясковай тонкай кладкі.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Не нараку на лёс,*
*Дзе песня шчыравала,*
*Бо кладка да нябёс*
*Не раз мяне ўздымала.*

Усё гэта згадваецца, калі трымаеш у руках кнігу Я. Янішчыц "Выбранае" (укладанне Алы Канапелькі і Валянціны Коўтун), выпушчаную выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Атрымаўся ладны том, надрукаваны на добрай паперы, багата ілюстраваны фотаздымкамі Сяргея Панізніка, з каляровым партрэтам паэтэсы, аўтарам якога з'яўляецца мастак В. Масцераў.

Застаецца толькі парадавацца, што нарэшце мастакоўская спадчына Я. Янішчыц (акрамя вершаў і паэм, у кнізе прадстаўлены апавяданні) прыйшла да чытача, прытым у найбольш поўным выглядзе, чым дагэтуль. І радуешся... Радуешся, нягледзячы на тое, што ведаеш: ёсць пастанова аб выданні Збору твораў Я. Янішчыц у трох тамах. Ды чамусьці забыліся пра яе... Але дзякуй і за гэта. Усё ж з творчасцю Я. Янішчыц могуць пазнаёміцца і чытачы, якія не маюць у сваіх хатніх бібліятэках прыжыццёвых зборнікаў паэтэсы, а празаічныя творы Я. Янішчыц, як вядома, увогуле асобнай кнігай не выдаваліся — толькі друкаваліся ў перыёдыцы, у тым ліку на старонках "ЛіМа".

Ёсць мажлівасць падрабязней даведацца пра адметнасць жыццёвага і творчага шляху Я. Янішчыц, пазнаёміўшыся з уступным артыкулам Дзмітрыя Бугаёва "Летуценніца на скразняках эпохі". Д. Бугаёў быў адным з тых, хто ў свой час адгукнуўся рэцэнзіяй на першы паэтычны зборнік Я. Янішчыц "Снежныя грамніцы", пазней пісаў пра наступныя яе кнігі.

Артыкул "Летуценніца на скразняках эпохі" — спроба вызначыць месца Я. Янішчыц у беларускай літаратуры, раскрыўшы ўмовы, у якіх фарміраваўся яе талент (фарміраваўся часта насуперак гэтым умовам): "Палеская летуценніцца імкнулася быць гранічна шчырай і сумленнай ва ўсім. У часы вялікага фарысейства гэта надзвычай складана, калі ўвогуле магчыма. Янішчыц здагадвалася пра гэта. І яна, хоць і рабіла адчайныя спробы самасуцяшэння, таксама прыкметныя ў лірыцы апошніх гадоў, урэшце не вытрымала, надламалася і хутчэй за ўсё сама склала сваё "стомленае крылле". На жорсткіх скразняках бесчалавечнай эпохі першымі гінуць летуценнікі з чулай душой і трапяткім сэрцам..." Незавершаную ж паэму "Галалёд" прадстаўляе В. Коўтун, гаворачы адначасова і пра прозу Я. Янішчыц, ставячы яе імя поруч з імем Цёткі: "Для мяне гэтыя два святыя імені на адвечных старонках нашай літаратурнай агульнанароднай Біблii будуць стаяць заўсёды побач".

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



# Апошнія вершы

*Вось мне і восемдзесят сем.*
*Я нешта п'ю і нешта ем,*
*Часамі нават саграшу —*
*Верш пра каханне напішу.*

## Начлежныя ночы

*Адпелі начлежнікі зорныя ночы,*
*Даўно дагарэлі кастры,*
*І толькі сава апантана рагоча*
*Ды плача жаўна да зары.*

*Пранізліва жаласны вецер засвішча,*
*Жывое іскрынкі нідзе не відно,*
*Даўно асакой зарасло папялішча,*
*І песні замоўклі даўно.*

*Не чутна, як тупаюць сытыя коні,*
*Як путы звіняць і звіняць...*
*А я паўтараю: "Літоўскай пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць".*

*Прыпомніў начлегі —*
*сляза затуманіла вочы,*
*І сэрца заныла, відаць, нездарма:*
*Сава, як даўней, апантана рагоча,*
*Начлежнай паэзіі толькі няма.*
1999—2000

## Маўчанне

*Тяжеле всех судьба казнит Россию.*
**В. КЮХЕЛЬБЕКЕР**

*Баяцца праўды і жывога слова*
*Цары, царкі і каралі*
*І лічаць, што яны — аснова*
*Усяго, што ім патрэбна на Зямлі.*

*Што іх палі, лясы і рэкі,*
*Што ў іх шчаслівы кожны дзень і год,*
*Што ў іх заўсёды поўныя засекі,*
*Хоць і драбнее і маўчыць народ.*

*Царкам іграюць верныя музыкі,*
*І гімны урачыстыя гучаць,*
*А люд сляпы і без'языкі*
*Умее, стогнучы, маўчаць.*

*За ўсіх, што ўладарам пасуе,*
*Заплюшчыўшыся, без прыгод,*
*Галосіць, але галасуе*
*Маўклівы і знявераны народ.*

*Калі ж, нарэшце без сумнення,*
*Усе зразумеюць каралі,*
*Што без сапраўднай праўды і сумлення*
*Не будзе шчасця на Зямлі.*
17/IX—2000

## Дачка

*Сузор'ем на калючым дроце*
*Іскрыўся лютаўскі мароз,*
*Агеньчык ледзь мільгаў на кноце,*
*Як ненадзейны ўласны лёс.*

*Ён невядомае прарочыў,*
*Ішоў за намі след у след,*
*Ды шчасце лютаўскаю ноччу*
*Прыйшло у наш складаны свет.*

*Маленечкая, быццам птушка,*
*Яшчэ без мовы, без імя,*
*На свет з'явілася дачушка, —*
*Надзея першая мая...*

*Таёжнае шумела вецце,*
*Снег серабрыўся на суках,*
*І пад аховай на дасвецці*
*Яна на матчыных руках*

*Пайшла ад гора і да гора,*
*Быў кожны крок яе відзён,*
*І стала шчасцем і апорай*
*Для нас дачка да гэтых дзён.*

*Усё жыццё было праверкай...*
*І веру і не веру я,*
*Што маладой пенсіянеркай*
*Становіцца дачка мая.*

*Яна ўпэўненай хадою*
*Ідзе, не трацячы надзей,*
*Для родных — самай маладою*
*І неабходнай для людзей.*
Студзень — верасень 2000

## Пад лебядзіным крылом

*Мы засталіся удваіх,*
*Нібы ў двайным палоне,*
*Я дакрануўся да тваіх*
*І вуснаў і далоняў.*

*А нехта выключыў святло,*
*Каб не сляпіла вочы,*
*І вокны снегам замяло*
*На сконе ночы.*

*Прыгадваю ўсё, як было,*
*Як ты шаптала,*
*Што лебядзінае крыло*
*Нас абдымала.*

*З гадамі ў змрок не адышлі*
*Усе нашы святы,*
*Калі з табою мы былі*
*Нібы сіямскія блізняты.*

## Пакаянне

*Карае, відаць, Усявышні*
*За даўнія нашы грахі,*
*І самых патрэбных, як лішніх,*
*У свет выпраўляе другі.*

*Крывёю набраклі разоры,*
*Як у былыя вякі,*
*Палаюць злавесныя зоры*
*Па волі суровай рукі.*

*Знікаюць палацы і хаты,*
*Радню не знаходзіць радня:*
*Злачынныя б'юць аўтаматы*
*У чыстыя душы штодня.*

*Галосяць бязногія дзеці,*
*У вечнасць плывуць караблі.*
*Малю, каб на нашай планеце*
*Усе людзі, як людзі жылі.*

*Мы літасці Боскай чакаем.*
*Адрынем нянавісць і страх,*
*Каб шчасце заззяла над краем,*
*Павінны пакаяцца ўсе у грахах.*
Верасень 2000

## Фантазія

*Я горкую праўду аднойчы сказаў:*
*Нячысцік язык мне вузлом завязаў,*
*А сам патрабуе: "Маё ўсё хвалі,*
*Каб ціха і мірна было на зямлі.*
*Аб кожнай нястачы і дробнай бядзе*
*Не заікайся ніколі, нідзе,*
*Трымайся заўсёды у межах і рамках,*
*Расказвай пра ўсё*
*у патрэбных напрамках:*
*Пра поспехі — шчыра,*
*пра ворагаў — гнеўна,*
*Усё абяцай, што чакаем напэўна.*
*Можаш успомніць і пра недахопы*
*У бліжніх і дальніх краінах Еўропы.*
*А ў нас недахопаў сур'ёзных не будзе,*
*Бо вераць заўсёды сумленныя людзі".*
*"А што тады будзе, як так і скажу?"*
*Нячысцік запэўніў: "Язык развяжу".*
21/1—2000

## Прызнанне

*Калі надыдзе мой апошні час,*
*Я не слязьмі, а ўсмешкай стрэну вас,*
*Юнацтва ўспомню і маленства*
*І радасці з нядоляй падабенства.*
*Я перад споведдзю душу адкрыю,*
*Каб вы жылі шчасліва, як святыя,*
*Каб абміналі промахі і страты,*
*Каб кожны быў і дужы, і багаты,*
*А сам сыду у іншы свет павольна,*
*З надзеяю, што кожны будзе вольны.*
Верасень 2000

## Безназоўны

*Усё змяшалася і ява, і кіно,*
*Заходы, поўначы, світанні,*
*Што сёння хвалявала, што даўно,*
*Што цешыць і што варта пакаяння.*

*Навобмацак іду за крокам крок,*
*Шукаю незачыненыя дзверы,*
*Нібыта ўсё заблытана знарок,*
*Як слых Бетховена і зрок Гамера.*

*Пакуты іх вядомыя спрадвек,*
*А слава засланіла гора:*
*Між геніяў не ведаюць калек,*
*Яны жывуць і сёння, як учора.*

*Я ж драбяза і кволы чалавек,*
*Чыё жыццё — кароткая хвілінка,*
*З маленства паспытаўшы здзек,*
*Як адламаная галінка.*

*Я не баюся, што ў нябыт лячу,*
*Хоць жыць люблю, а часам... не хачу.*
Студзень—верасень 2000

●

*Мінуць гады, надыдзе час,*
*Калі не будзе нас і вас,*
*А ўсё адродзіцца удала,*
*Бо ёсць і Колас і Купала.*
22/IX-2000

## Вераснёвае

*Па верасе верасень скача*
*Блакітным і дробным дажджом,*
*І верыцца: прыйдзе удача*
*У кожную хату і дом.*

*Па колкай запыленай пожні*
*Павольна, як прывід і цень,*
*Нарэшце адыдзе апошні*
*Далёкі ад радасці дзень,*

*Змяшаны з крывёю і потам,*
*Слязьмі і разводдзямі рэк,*
*З багатым на ўсё умалотам*
*Наступны спяшаецца век.*

*Зямля і душа маладзее,*
*Хоць дождж ык імжыць і імжыць.*
*І ў непагадзь нам без надзеі —*
*Ні думаць, ні марыць, ні жыць.*
24/IX—2000

## Памяць

*Памяці Т. В. Г.*

*Каторы сустракаю лістапад?*
*Ад пазалоты клёны гнуцца,*
*А часам хочацца назад*
*Хоць толькі ў памяці вярнуцца*

*На сцежкі ў жыцце, што даўно няма,*
*Паклікаць любую вясёлым смехам,*
*Пакуль дачасная зіма*
*Не заглушыла рэха рэхам,*

*Развеяць неспакою чад,*
*Каб на самоце не застацца,*
*Каб незабыўных прыгадаць дзяўчат,*
*Хоць і не здолеў з імі развітацца.*

*Яны даўно сышлі у вечны свет,*
*А я дасюль не расстаюся з імі:*
*Прыпомніцца то шалік, то берэт*
*І нашы вёсны, восені і зімы.*

*Не спіцца да дванаццаці гадзін,*
*Чуваць далёкі пошчак непагоды.*
*З равеснікаў застаўся я адзін,*
*А ў памяці яны жывуць заўсёды.*
25/IX—2000

## Экспромты

---

*Дзве здольнасці Бог здолеў даць —*
*Запамінаць і забываць,*
*Што колісь і цяпер было —*
*Дабро запомніць, а забыцца зло.*

---

*Гатоў за праўду памаліцца*
*І ніколі не зграшыць.*
*Хлусні сумленны не баіцца,*
*А хлус ад праўды аж дрыжыць.*

---

*Пахваліўся я цішком,*
*Ледзьве сам сабе паверыў,*
*Што быў доўга бедаком,*
*А зрабіўся мільянерам.*

---

*Не дзівяць новыя падзеі,*
*Што распладзіліся зладзеі:*
*У іх камп'ютэры і факсы,*
*Мерсэдэсы, вілы, "баксы".*

---

*Калі паэт складае оды,*
*Чакае толькі ўзнагароды*
*І прыглядаецца здаля*
*Да новенькага медаля,*
*І спадзяецца хоць на свята*
*Заслужыць лаўрэата.*

---

*Усё ж бывае час такі,*
*Калі не бачыш яснай мэты,*
*І непатрэбны мастакі,*
*Ні драматургі, ні паэты.*

---

*Не за здольнасці і розум*
*Атрымаў высокі чын,*
*А што часам быў цвярозым*
*І мужчынам між мужчын.*

---

*Вы парайце, людцы, зноў,*
*Як усё ж прымусіць*
*Праўду гаварыць сыноў,*
*Калі маці хлусіць?*

---

*Кожны цар і кожны шах*
*Свой любіць профіль на грашах.*
*А што, як пойдзе у адстаўку,*
*Адправяць грошы ў пераплаўку?*

---

*Зганяюць часам муху,*
*А ўрэжуць аплявуху.*

---

*Відаць, заведзена вякамі:*
*Жабрак сябруе з жабракамі.*
*Яго шануюць да пары*
*Надзейныя павадыры.*

---

*Спраўляюць раннія дажынкі,*
*На ўсе спяваюць галасы,*
*Бо, як закружацца сняжынкі,*
*Заплачуць зернем каласы.*

---

*Стамілася жалеза,*
*Даўно замоўк матор,*
*А сэрца без пратэза*
*Да гэтых б'ецца пор.*

вай скрыні, і калі прыйшла тая паштоўка, сам яе прачытаў і чакаў, калі надыдзе гэтае чысло, дзень экзаменаў. А я, прызнацца, не збіралася аддаваць яго, такога маленькага — яшчэ нават 6 гадоў не было — у музычную школу. Але ён проста настояў: раніцай нас літаральна пацягнуў туды, у школу. Там яму адразу прапанавалі фартэпіяна.

Фартэпіяна ён і сам выбраў, гадоў з трох. І мне ніколі не даводзілася яго прымушаць іграць. Гэта ў яго з дзіцячага садзіка было агромністае жаданне пайграць на піяніна, да якога выхавацелі проста не падпускалі малых. І калі мы прыязджалі да сваякоў, у якіх было піяніна, Саша ад інструмента не адыходзіў, хаця і там яго адганялі: "Ты маленькі, ты вось зараз разладзіш інструмент!" А ўжо ў музычнай школе, калі напачатку вучылі адным пальчыкам іграць, потым адной рукой, дык ён усё стараўся дзвюма навучыцца. І самастойна-такі вывучыў Адажыо, якое стрыечная сястрычка грала, і аднойчы проста ўразіў настаўнікаў, сыграўшы тое, чаму пачаткоўцаў пакуль не вучылі...

Ён і ў каледж паступіў добраахвотна. Прыйшоў той момант, калі трэба было вырашаць: або заставацца дома ў Асіповічах і не рабіць гэтую музычную кар'еру, або ахвяраваць нейкімі сямейнымі выгодамі і пераязджаць у Мінск. Я цэлы год раздумвала: было жахліва ўявіць, як давядзецца 12-гадовага сына выпраўляць кудысьці... Першы год я да ў яго ў інтэрнат, у Мінск, прыязджала два разы на тыдзень. І лічу, што ён не адарваўся ад сям'і. Гэта для мяне самае важнае было: каб ён адчуваў сваю сям'ю. Хаця ён і жыве асобна, мы любім і заўжды памятаем адно аднаго.

***Аляксандр Музыкантаў, лаўрэат міжнародных конкурсаў:***

— Перадусім, конкурс для мяне — гэта свята. Было вельмі прыемна, што за два тыдні ў мяне адбылося 5 выступленняў у філармоніі. Гэта вельмі вялікі вопыт. Канечне, было вельмі цікава і паслухаць тых удзельнікаў, што прыехалі з далёкага замежжа і з Расіі, Украіны, параўнаць манеру выканання. Слухаў сапернікаў хутчэй як сваіх калегаў. Вось за гэтае "саперніцтва" я не вельмі люблю конкурсы, стараюся ставіцца да іх не як да нейкага спаборніцтва. Бо самае прыемнае тут — кантакт з публікай, магчымасць іграць. Вельмі радавала, што ўжо ў канцы конкурсу зала нашай філармоніі была ў аншлагу. Здорава!

Мне ўжо задавалі пытанне наконт паходжання прозвішча "Музыкантаў". Я гэтым цікавіўся, вядома, але да глыбіняў у мяне не было магчымасці дабрацца. Распытваў свайго дзядулю — прафесійных музыкантаў сярод продкаў, здаецца, не было... На аматарскім узроўні — так. Вось мой тата — сапраўды вельмі здольны чалавек у музычным плане, але, на жаль, здольнасці не былі раскрытыя і развітыя. Самавукам ён грае вельмі добра на розных інструментах — практычна на ўсім, што гучыць. Нават на такім аматарскім узроўні можна адчуць розніцу: як адзін грае, як другі — ці так сабе, ці адмыслова.

Музыку я заўжды любіў. Мне было хорава, калі яе чуў, мне падабалася слухаць, як бабуля спявала, як бацька граў на нечым. І калі ўжо ў дзіцячы сад паступіў, мне да вар'яцтва спадабалася піяніна. Слухаў, калі грала выхавацелька. А самому кратаць клавішы не дазвалялася, і тады былі ілюзіі: я на сцэнцы "граць" пачынаў, на стале. Дома піяніна таксама не было. Купілі потым — дзеля мяне. У музычную школу пачаў хадзіць дзякуючы маме, тату, бабулі — яна мяне малога некалькі гадоў вадзіла туды, у супрацьлеглы ад дома канец горада.

Першай настаўніцай музыкі была Галіна Барысаўна Валабуева. З ёю я, ужо ў 7-гадовым узросце, перыядычна ездзіў у Мінск, у каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, на кансультацыі да педагога Любові Мікалаеўны Бондаравай. Да яе ў клас я потым і паступіў, а правучыўшыся год, перайшоў да Зоі Веніямінаўны Качарскай.

Калі я прыехаў у Мінск... Пераходны момант, вядома, быў, але ён так прайшоў, што ніякага следу не пакінуў. Мне спадабалася новае жыццё, якое, безумоўна, адрознівалася ад таго, чым я жыў у Асіповічах, дзе кола маіх стасункаў было не музычнае.

Я люблю музіцыраваць, нават люблю імправізаваць у розных напрамках, асабліва ў джазе, блюзе. У кампазіцыі мае спробы былі не надта ўдалыя, хаця, мабыць, яшчэ саспею для гэтага... Ну, вядома, апроч фартэпіяна, ёсць яшчэ нешта. Стараюся звяртаць увагу на ўсё, што вакол мяне. Вялікую ўвагу ўдзяляю мастацтву, схіляюся перад людзьмі, якія штосьці ствараюць: кампазітарамі, мастакамі, пісьменнікамі. Дый усё, што адбываецца ў нашым сучасным жыцці, стараюся неяк засвойваць, асэнсоўваць.

Хачу рухацца наперад, пастаянна вучыць многа іншай музыкі. І для мяне самы важны момант... **што** будзе праз наступныя 16 гадоў? Мяне гэта больш за ўсё турбуе. І я буду старацца працаваць...

●

Конкурс "Мінск-2000" хаця і нядаўняя, але ўжо гісторыя. У творчым жыцці Аляксандра Музыкантава, якому два месяцы таму споўнілася 17, адбываюцца новыя падзеі. Запіс у студыі Беларускага радыё. Вандроўка ў Бон у ліку дзевяці маладых беларускіх піяністаў, студэнтаў Акадэміі музыкі ды навучэнцаў каледжа, якія выконвалі там унікальную праграму — усе сімфоніі Бетховена, пераклдзеныя для фартэпіяна Лістам. (Для гэтага праекта Аляксандр падрыхтаваў Шостую, "Пастаральную", сімфонію). Праца над "Чаплініянай" — захапляючым творам, які абраў для свайго знанага Камернага аркестра вядомы артыст, дырыжор, педагог Уладзімір Перлін.

18 кастрычніка аркестр выступіць на сцэне сталічнай філармоніі ва ўрачыстым канцэрце, прысвечаным 65-годдзю Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, салістам у "Чаплініяне" будзе А. Музыкантаў.

Мне прыгадваецца ўжо не маналог, а рэпліка, сказаная адным піяністам-педагогам пасля конкурснага выступлення нашага героя: "З такім успрыманнем гуку трэба нарадзіцца. Гэта — унутранае. Гэтаму не навучыш".

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

ВЕЧАРЫНЫ

# Брава, Артыст!

Калі праўдзівае сцвярджэнне, што песня — душа народа, тады, здаецца, будзе справядлівым назваць песні ў выкананні заслужанага артыста Беларусі Міхася Пацука люстэркам нашай беларускай душы. Настолькі арганічнымі, сугучнымі народным вытокам падаюцца унікальны голас, артыстызм, мяккасць характару Міхася! І сапраўды, яго талент, яго адкрыты фальклорны тэнар вярнулі шмат якія народныя песні да новага жыцця, зрабілі іх папулярнымі, пазнавальнымі далёка за межамі краіны. Колькі такіх шэдэўраў народнай творчасці набылі незабыўнае гучанне за трыццацігадовую артыстычную кар'еру спевака!

Падставай для асэнсавання творчага шляху паслужыў 50-гадовы юбілей Міхася Пацука, святкаванню якога і быў прысвечаны творчы вечар-канцэрт спевака, што адбыўся не так даўно ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Перад пачаткам праграмы аматараў народнай песні чакаў прыемны сюрпрыз — магчымасць набыць дыхтоўны, маляўніча аформлены кампакт-дыск "Міхась Пацук і ансамбль "Вяселле", выдадзены фірмай "Каўчэг" — важкі ўнёсак у беларускую нацыянальную дыскаграфію.

Ну а святочны канцэрт распачала песенная рэтраспектыва Міхася Пацука і ансамбля "Вяселле". Перапоўненая філарманічная зала з захапленнем прымала шырокавядомыя народныя песні "Шэрая лашадачка", "Маруся", "Ой, пайду я на ту гору", "Палескую баладу"... Асаблівую слухацкую ўдзячнасць выклікала выкананне вядомай песні "Чачотачка", з якой і пачалася спеўная кар'ера Міхася Пацука. Вельмі чуйнымі партнёрамі юбіляру на канцэрце выступілі музыкі ансамбля "Вяселле" і яго салістка заслужаная артыстка Беларусі Ніна Бранковіч.

Павіншаваць юбіляра завіталі і фальклорны ансамбль "Радавод" ЗАТ "Атлант", якім на працягу некалькіх гадоў кіруе М. Пацук. Самадзейныя артысты прыпаднеслі самы дарагі падарунак — цудоўнае выкананне беларускай народнай песні "Ой, дзяўчына, куды йдзеш". Дарэчы, "Радавод" — не адзіны музычны калектыў, які прадстаўляў таленты "Атланта". Сваімі песнямі парадавалі слухачоў ансамблі "Вечарына" і "Рэй". Завод, таксама, выступіў у якасці аднаго з фундатараў юбілейнага канцэрта.



Ад імя даўніх сяброў шчыра віншавалі спевака вядучая імпрэзы дыктар Кацярына Ягорава, а таксама фальклорны ансамбль "Крэсіва" пад кіраўніцтвам А. Казака, заслужаныя артысты Беларусі С. і У. Салодкія, Н. Мікуліч, Я. Паплаўская ды А. Ціхановіч...

Як адзначалася, канцэрт-віншаванне складаўся з рэтраспектыўнай ды віншавальна-забаўляльнай частак. І калі першая з іх успрымалася як імкненне арганізатараў аддаць даніну павагі рыцару беларускай песні, дык другая сваімі эклектызмам, арыентацыяй на псеўданародныя камерцыялізаваныя ўзоры нагадвала "салянку" не лепшага гатунку местачковай самадзейнасці. У гэтым бачацца пралікі рэжысёраў канцэрта, якія не змаглі, у поўнай меры, зрабіць беларускую песню разам з асобай Міхася Пацука галоўнымі дзеючымі асобамі праграмы.

Але гэтыя сумныя заўвагі не павінны захінуць асноўнага пафасу юбілейнага канцэрта — прызнання і народнай любові да Артыста, які зрабіў мэтай свайго жыцця, творчасці адраджэнне народнай манеры выканання, лепшых узораў беларускага фальклору. Творчасць Міхася Пацука і яго аднадумцаў па ансамблі "Вяселле" — сведчанне таго, што беларуская песня жыве і знаходзіць усё новых і новых адданых прыхільнікаў.

**А. МІТРАНОВІЧ**

запомнілася (дарэчы, крытыкі вылучаюць таксама спектакль М. Дзінава "Апошняя пастараль" паводле А. Адамовіча). Што з таго, што многія п'есы, якія ідуць у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, не ўваходзяць у рэпертуары іншых тэатраў (заўвага міністра культуры). Зразумела, што некаторыя спектаклі тэатра-лабараторыі проста не "прыжывуцца" ў іншых тэатрах па вядомых усім прычынах (хаця ў застойныя часы многія забароненыя п'есы альбо фільмы спакойна ставіліся, дэманстраваліся ў правінцыйных тэатрыках і кінатэатрах. Не дзіва, што летась "Прынц Мамабук" з'явіўся на афішах Мінскага абласнога драматычнага тэатра, што ў Маладзечне). Але справа нават не ў гэтым, а ў тым, што кожны тэатр адчувае, адлюстроўвае час па-свойму, згодна са сваімі мастацкімі прынцыпамі. Адзін тэатр лічыць неабходным ставіць сёння камедыю Шэкспіра, другі — пародыю на Шэкспіра, трэці — сатырычны фарс сучаснага драматурга. Відавочна, што "Вольная сцэна" іранізуе над часам (ці патрэбна гэта часу — іншая справа).

За вяртанне В. Мазынскага асабліва змагаюцца акцёры "Вольнай сцэны". Калі стала вядома, што іх мастацкі кіраўнік звольнены, яны хутка даслалі ліст міністру культуры ("тэатру пагражае забыццё, і мы будзем выратоўваць яго ўсімі законнымі сродкамі"), а днямі, на прадстаўленні новага мастацкага кіраўніка, акцёры ў знак пратэсту тупалі нагамі, пляскалі ў далоні, заклікаючы "чужака" пакінуць тэатр (прыгадаю, што В. Анісенка паставіў у тэатрылабараторыі шэкспіраўскія трагедыі "Рычард III" і "Макбет").

Між іншым, 28 верасня Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі адкрыў новы сезон "Прынцам Мамабукам", спектаклем, з якога, на жаль, і пачалася хроніка смерці аднаго тэатра, якой можна (трэба) было пазбегнуць. Гэта быў ужо новы тэатр: былы мастацкі кіраўнік В. Мазынскі займеў пасаду чарговага рэжысёра (спадарове, а можа прыйшоў час заснаваць аўтарскі, незалежны тэатр?); перастаў быць дырэктарам тэатра Ю. Кулік, невялікая трупа Мазынскага "размылася" новымі акцёрамі...

Згадваючы сітуацыю з Тэатрам на Таганцы, Ю. Любімаў цяпер разважае: "Таганка" не была палітычным тэатрам — яна паўстала супраць сацрэалізму. Наш невялікі тэатр, які знаходзіўся тады на ўскраіне горада, даводзіў, што мастацтва сцэны можа быць зусім іншым. І сцвярджаў асобу, а не калектыў..." У рэшце рэшт, выпрабаванні, якія ўвесь час падпільноўваюць творцу, не павінны шкодзіць служэнню мастацтву. Ю. Любімаву гэта неяк удавалася.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: рэжысёр В. МАЗЫНСКІ*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Ад вечных вобразаў Шэкспіра...

***Музыка, менавіта музыка Вячаслава Кузняцова падштурхнула балетмайстра Наталлю Фурман на стварэнне балета "Макбет". У музычнай творчасці, ладзе мыслення кампазітара яна ўбачыла ўсё тое, што хацела ўвасобіць на сцэне.***

Кажучы словамі балетмайстра: "Напэўна, няма мастака, які не марыў бы ўвасобіць вобразы Шэкспіра на сцэне". Ягоная творчасць настолькі глыбокая і незвычайная, што выклікала абгрунтаваныя сумненні наконт магчымасці поўнай перадачы ўсёй глыбіні і насычанасці вобразаў і эмоцый, увасобленых драматургам. Сумненні зніклі пасля праслухоўвання музыкі: гэтак поўна здолеў В. Кузняцоў увасобіць свет драматургіі, што звяло на нуль сумненні Н. Фурман.

Свой балет яна стварала ў цесным супрацоўніцтве не толькі з кампазітарам, а й са сцэнографам Т. Карака. Прапанаваныя дэкарацыі можна мадыфікацыю, што забяспечвае арганічнае ўзаемадзеянне музыкі, харэаграфіі і сцэнаграфіі.

У "Макбеце" аўтары сканцэнтравалі сваю ўвагу не на гістарычным фоне трагедыі, яны не спрабавалі даць дакладнае апісанне часу і месца разгортвання падзей, а засяродзіліся менавіта на галоўных героях, на іх думках, пачуццях, учынках — словам, на самім дзеянні. Хаця варта адзначыць, што стылізацыя тэмы Шатландыі як характарыстыка месца дзеяння праходзіць і ў музыцы, і ў харэаграфіі.

Пры стварэнні харэаграфічных вобразаў у спектаклі Н. Фурман выкарыстала класічны танец, сінтэзаваны з мадэрнам. З-за таго, што балет "Макбет" аднаактовы, узрастае аб'ём інфармацыі ў адзінку часу — і гэта смелы крок аўтараў: увасобіць такі маштабны твор усяго ў адзін акт! Гэта абумовіла несупыннае, насычанае дынамічнае развіццё дзеяння.

Паводле сюжэта, якога ў асноўным прытрымліваецца балетмайстар, усё пачынаецца з прадказання ведзьмамі Макбету (А. Фурман) і яго сябру Банка (А. Ішчанка). З прадказання вынікае, што Макбет стане каралём, а Банка народзіць наследнікаў кароны. Паводле пастановачнай задумы, ведзьмы, падобна да старажытнагрэчаскіх багіняў Мойраў, ткуць ніткі лёсу галоўных герояў. У далейшым у трох "кропельках крыві" бачым адлюстраванне таго, **што** далі ведзьмы галоўным героям. Першую з гэтых кропель вельмі экспрэсіўна стварыў І. Сядзько. Адпаведная сцэна і дае імпульс да развіцця ўсяго балета. Жадаючы узурпіраваць уладу, Макбет забівае караля Дункана. Гэтая сцэна вырашана лаканічна, само забойства адбываецца за сцэнай.

Макбет мог бы ўрэшце быць станоўчым героем. Ён смелы ваяр, закаханы муж, але ўсе яго станоўчыя якасці зыходзяць на нішто, як толькі ён пачынае крочыць па дарозе кровапраліцця. Цікавы вобраз Макбета стварыў А. Фурман: мужнага і закаханага, але чалавека, які сумняваецца.

Макбет — слабы чалавек, чалавек, які паддаецца ўплыву. Ён не хацеў праліваць кроў, але ён кахае сваю жонку, а менавіта ж ледзі Макбет правакуе яго на забойства караля. Напэўна, сям'ю Макбет можна было б назваць шчаслівай, калі б не адна акалічнасць: гэтая сям'я пазбаўлена натуральнага і адзінага свайго сэнсу — працягу сябе ў дзецях. Таму і з'яўляецца зайздрасць да сям'і Банка, у якога ёсць дзеці, якія, паводле прадказання, мусяць заняць месца Макбета на троне. У выніку гэта і вырашае лёс Банка: ён таксама бязлітасна забіты.

У фінале пастаноўшчыцай знойдзены добры ход: кроў, пралітая Макбетам у пачатку балета, ператвараецца ў мора крыві, якое паглынае саміх герояў.

Зло не застаецца непакараным — такое крэда аўтара балета, і з ім нельга не пагадзіцца.

Новы спектакль стаўся дэбютам не толькі для балетмайстра і не толькі для вядомага кампазітара, які ўпершыню спрычыніўся да жанру балета, але і для маладога перспектыўнага дырыжора Алега Лесуна, праца якога заслугоўвае самых добрых слоў.

"Макбет" — дыпломны спектакль Наталлі Фурман, вучаніцы Валянціна Елізар'ева. Гэта ўжо другая пастаноўка, увасобленая ягонымі вучнямі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі. Маэстра В. Елізар'еў робіць высакародную справу, прадстаўляючы пачынаючым харэографам вялікую сцэну.

**Сцяпан БУРАЎКОЎ**

## Водар роднага слова

ПАЎЛУ МІХАЙЛАВУ — 50



**Водар ягонага слова настоены на непаўторных гуках беларускага Палесся, знітаваны з чалавечай шчодрасцю і дабрынёй. Нездарма ж ад шчырага сэрца паклаліся некалі на паперу радкі: "Роднае беларускае слова, такое ласкавае і пяшчотнае, як подых цёплага летняга ветрыку ці дотык ранішняга сонечнага праменьчыка, звонкае і пералівістае, як спеў празрыстых сцюдзёных крыніц, суровае і грознае, як пошум раптоўнай летняй навальніцы..." А шматкроп'е ў канцы азначала для Паўла Міхайлава, мовазнаўцы, вядомага беларускага дыялектолага, спецыяліста ў галіне лінгвагеаграфіі, анамастыкі, этналінгвістыкі, навуковай тэрміналогіі, нястомнае даследаванне самых тонкіх нюансаў матчынай мовы.**

**Нарадзіўся Павел Аляксандравіч 13 кастрычніка 1950 года ў вёсцы Ушкавіца Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля службы ў войску Павел паступае на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Яшчэ студэнтам ён захапіўся дыялекталогіяй, выязджаў у дыялекталагічныя экспедыцыі разам з супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства, якія збіралі матэрыялы для "Тураўскага слоўніка" і "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак". На фарміраванне асобы паўплывалі і выкладчыкі, у якіх П. Міхайлаў вучыўся, — Уладзімір Калеснік, Вера Ляшук, Міхаіл Моладаў, Галіна Малажай...**

**Так пачынаўся ягоны шлях у навуку. Пакручасты, нялёгкі, але надзвычай цікавы. З лістапада 1975 года П. Міхайлаў — аспірант сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, а з красавіка 1976 года — малодшы навуковы супрацоўнік гэтай установы. Аспірантуру даводзілася спалучаць з працай. Толькі дзякуючы вялікай настойлівасці, адданасці справе ўдалося сабраць матэрыял для дысертацыі. Прыйшлося аб'ездзіць шмат вёсак і мястэчак, каб запісаць лексіку беларускіх ганчароў, а потым — карпатлівая і штодзённая праца ў бібліятэцы. У 1981 годзе Павел Міхайлаў паспяхова абараняе кандыдацкую дысертацыю "Лексіка беларускіх ганчароў".**

**Сёння П. Міхайлаў — аўтар звыш 120 навуковых прац, надрукаваных у айчынных і замежных выданнях па разнастайных актуальных пытаннях сучаснай беларускай мовазнаўчай навукі. Ён з'яўляецца сааўтарам такіх буйных калектыўных прац, як "Тураўскі слоўнік" (у 5-ці тамах, 1982—1987), "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (у 5-ці тамах, (1979—1986). "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (у 5-ці тамах 1993—1998), "Мікратапанімія Беларусі" (1974), "Лексічныя ландшафты Беларусі" (1995), "Кароткі руска-беларускі тлумачальны слоўнік па агульнай біялогіі" (1994) і інш. У складзе Беларускай нацыянальнай камісіі прымаў удзел у падрыхтоўцы буйных навуковых міжнародных праектаў — Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа (1982—1991) і Лінгвістычнага атласа Еўропы (1976—1991). Такі ўдзел стаў для Паўла Аляксандравіча выдатнай навуковай школай, дзе праз кантакты з філолагамі розных краін значна павышаўся асабісты ўзровень.**

**Павел Міхайлаў працаваў вучоным сакратаром, потым — загадчыкам аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Зараз узначальвае кафедру беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, з'яўляецца членам вучонага савета факультэта беларускай філалогіі і культуры педуніверсітэта, вучоным сакратаром савета па абароне кандыдацкіх дысертацый па спецыяльнасцях беларуская і руская мова пры БДПУ імя Максіма Танка.**

**Аднак найбольш часу і душэўных сіл аддае Павел Аляксандравіч сваёй кафедры. Людзі ідуць да яго не толькі як да загадчыка, але найперш — чалавека, які заўсёды дапаможа, падтрымае, супакоіць. Для Паўла Аляксандравіча няма чужога болю, чужых пакут, чужой адзіноты. І гэта нягледзячы на велізарную занятасць і надзённыя клопаты.**

**Якім гэты дзень будзе для Паўла Аляксандравіча? Толькі сонечным, блакітна-бясхмарным, пяшчотна-ўсмешлівым. Ды інакш і не можа быць у пяцьдзесят гадоў, калі сярод шматлікіх пахаў зямлі асабліва вабіць водар матчынага слова.**

**Святлана ФАЦЕЕВА,**
**Таццяна СТАРАСЦЕНКА,**
**выкладчыкі кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка**

ПАЭЗІЯ

Алесь КАМАРОЎСКІ



### Мама

*Усё жыццё хадзіла ў зрэбным,*
*За працу — дробязная медзь...*
*Не знала золата і срэбра,*
*Уборы лепшыя — на смерць.*

*Вясна выкочвалася сонцам,*
*Зіхцела ў золаце раскош,*
*Калі на нізенькім услоны*
*Перабірала бульбу ў кош.*

*А лета ў кветках шыкавала —*
*Не чула правага пляча:*
*За хлеба цяжкага кавалак*
*Збірала іскры ў вачах.*

*Гады паскорвалі кірунак —*
*Калола сэрца пад рабро...*
*Ёй восень — золата ў дарунак*
*І павуцінак серабро.*

*Зіма на прасніцах шыкоўных*
*Пратво кудзеліла вакол,*
*І срэбра нітак тых шаўковых*
*Бярозы звешвалі ў вакно.*

*Ідзе, пакутніца святая,*
*Як на Галгофу, на абрыў...*
*Душа — такая залатая*
*І галава у серабры!*

### Футбол

*Спрэс*
*Людзей калоціць стрэс...*
*Ад якіх жа стадый ён*
*Ціск узносіць, быццам прэс?*
*Ці ратунак даў прагрэс?*
*Ёсць збавенне! —*
*Стадыён.*
*Другарадны, можа, матч,*
*І не з сонечнай пары,*
*Ды маленькі жвавы мяч*
*Нараджае ў нас парыў.*
*Там, на полі, —*
*Нашы душы...*
*Стадыён —*
*Дзевяты вал...*
*І душа ужо не тужыць,*
*І хвароба нас не душыць,*
*Не збівае напавал.*
*Мы — ў імгненні,*
*Мы — ў імкненні,*
*Мы — ў адчаянным рыўку...*
*Мы — працягу пакаленні,*
*Перабродзім па калені*
*Смерці страшную раку...*
*А яе цячэнне грозна*
*Перахоплівае дых*
*І вяртае тут жа розум*
*Ад забаў,*
*Ад гульняў розных*
*Да трывожных думак тых...*
*Думак тых,*
*Што свет калоцяць,*
*За якія горка плоцяць,*
*Калі гром саб'е з арбіт...*
*Ад якіх*
*Вякоў калодзеж*
*Сніцца ў цяжкім,*
*Мёртвым лёдзе,*
*Дзе на дне —*
*Сляпы нябыт.*
*— Гол забілі!..*
*— Гол забілі!..*
*Мы — за казкі,*
*Мы — за былі,*
*У якіх — вякоў працяг!*
*Толькі б часам не забылі,*
*Каб Зямлю ў нейтронным пыле*
*Нехта ўдарам не працяў.*
*На футболе*
*Многа болю,*
*Нават болей,*
*Чым за блізкіх нам людзей...*
*На футболе*
*Час няўдач*
*Трыбуны поле...*
*На футболе —*
*Страсці поле,*
*Паражэнняў і надзей.*
*Не адна "футбол" праблема...*
*Нам крычаць бы*
*Горка, нема,*
*У званы адчаю біць,*
*Бо над светам*
*Вее тленам,*
*Бо над светам —*
*Як дылема:*
*Заўтра быць*
*Або не быць?!*

•

*Ёсць у жанчыны прыгажосць*
*І захавалася шчэ тайна,*
*Здаецца, вабнасць, гожасць ёсць...*
*Ды маладосць, як хуткі госць,*
*Так нечакана адлятае...*

*Здаецца, вось яна, кране —*
*Сустрэчы, хлопцы, пацалункі...*
*Яшчэ бунтоўны жар крыві*
*І трызняць вусны, помняць рукі...*
*І успамінаў карані*
*Гайдаюць яркія карункі.*

*Хоць восень ясніць берагі,*
*Ды б'ецца думка не адчаем:*
*Узрост па пашпарту — адзін,*
*На выгляд колькі — то другі,*
*Ды трэці самы дарагі:*
*Сябе на колькі адчуваем!*

*Яшчэ паўнюткая рака*
*Пачуццяў мройных і лятункаў...*
*Душа гатова да рыўка...*
*Ды, як працяг свой у вяках,*
*Пяшчотна кратае рука*
*Галовы светлыя унукаў.*

### Ля дарог...

*Каб здароўе Бог доўга бярог,*
*Для карміліц рыкастых, рагатых,*
*Не касіце траву ля дарог —*
*Не заносьце хваробы у хаты.*

*Век машын прадзірае мурог,*
*Лес для шын на ашмоткі раскроіў...*
*Не збірайце грыбоў ля дарог,*
*Каб было вам багаццем здароўе.*

*Каб вам скальпель нутро не крамсаў*
*(І астролагі нат не ўгадаюць),*
*Не бярыце налівы з прысад,*
*Што дарогі у дыме гайдаюць.*

*Пакідае бацькоўскі парог*
*Сын...*
*Прашу я, жадаючы слёзна:*
*"Не глядзі на дзяўчат ля дарог,*
*Каб пасля не расплачвацца лёсам..."*

ПАМЯЦЬ

## Пакутнік Серафім Жыровіцкі

***Беларуская Праваслаўная Царква здаўна мела сваіх святых, тых людзей, чыё жыццё было ахвяраю Усявышняму, шляхам духоўнага ўдасканальвання і заўсёдным служэннем Богу, бліжнім. Але не правільна было б лічыць, што святыя падзвіжнікі асноўнай мэтай свайго жыцця ставілі толькі ўласнае ўратаванне. Яны жылі і жывуць у першую чаргу дзеля нас, імкнучыся далучыць кожнага да Хрыста сваімі дбайнымі святымі малітвамі, прыкладам уласных паводзінаў.***

6 верасня ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры ўрачыста адзначаўся дзень памяці пакутніка Серафіма Жыровіцкага, святога, услаўленага Беларускаю Праваслаўнаю Царквою 12 снежня 1999 года ў ліку дваццаці трох святых, якія служылі ў Мінскай епархіі і былі забітыя ў ХХ стагоддзі за веру Хрыстову.

Архімандрыт Серафім быў насельнікам Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Арыштаваны ў верасні 1944 года за тое, што ў гады вайны, выконваючы абавязкі місіянера, у сваіх паездках па Усходняй Беларусі адчыняў праваслаўныя храмы. Быў пакараны пяццю гадамі зняволення ў лагеры, дзе і сустрэў пакутніцкую смерць.

Нарадзіўся архімандрыт Серафім (у свеце Раман Раманавіч Шахмуць) у 1901 годзе ў сяле Падлессе Ляхавіцкага раёна ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Скончыў Ляхавіцкую двухкласную народную вучэльню. 25 чэрвеня 1922 года пакінуў дом і накіраваўся ў Жыровіцкі манастыр. 1 красавіка 1923 года прыняў манаскі пострыг пад імем Серафім.

У 1926 годзе Серафіма рукапаклалі ў іерадыякана, а ў хуткім часе — у іераманаха. Знаходзячыся ў дачыненнях з апальным архіепіскапам Панцеляймонам (Ражноўскім), ён сфарміраваўся як манах высокага духоўнага кшталту.

Вызначаўся а. Серафім, і як прапаведнік. У 1937 годзе яго накіравалі служыць у Белавежскую пушчу, адкуль ён вярнуўся 20 траўня, у дзень свята Жыровіцкага абраза Божай Маці. У 1938 годзе а. Серафім удзельнічае ў шматлюдных хрэсных ходах з Жыровіцкім Цудатворным абразом для збору сродкаў на рамонт манастыра. Разам з а. Серафімам вялікі ўдзел у гэтых хросных ходах прыняў яго блізкі сябар святар Рыгор Кударэнка (у будучым архімандрыт Ігнацій).

Напрыканцы 1939 года іераманах Серафім быў узведзены ў сан ігумена, а ў 1941 годзе яму і іерэю Рыгору Кударэнку была даверана высокая і адказная місія на акупаванай тэрыторыі Беларусі — арганізоўваць прыходскае жыццё там, дзе яно было разбурана ў даваенны перыяд. Пакінуўшы Жыровіцкі манастыр, яны паехалі ў напрамку Мінска. Па дарозе ў сталіцу пабывалі ў шэрагу сёлаў Капыльскага, Слуцкага і Уздзенскага раёнаў, дзе ў нядаўнім мінулым дзейнічалі цэрквы.

У Мінску архімандрыт Серафім і а. Рыгор непрацяглы час служылі пры Спаса-Праабражэнскай царкве былога жаночага манастыра. Атрымаўшы дазвол на далейшы праезд, місіянеры накіраваліся ва ўсходнюю частку Беларусі, у напрамку Віцебска. Далейшы шлях місіянераў ляжаў на Оршу. Пазней яны спыніліся ў Гомелі. Служылі ў Свята-Пятра-Паўлаўскім кафедральным саборы, наведваючы таксама і прыходскія храмы.

У верасні 1943 года місіянеры выехалі ў Бабруйск і праз некаторы час вярнуліся ў Мінск, скончыўшы сваю вандроўку.

Пабываўшы ў гады ваеннага ліхалецця ва Усходняй Беларусі, архімандрыт Серафім з'явіўся першым летапісцам тых нягод ад якіх пакутавалі служкі Царквы ў два перадваенныя дзесяцігоддзі. У чэрвені 1944 года прапаведнікі паехалі з Мінска ў Гродна, дзе 6 верасня іх арыштавалі. Пяць дзён цягнуўся допыт на месцы, а потым іх перавезлі ў мінскую турму. На допытах асуджаныя трымаліся з мужнасцю сапраўдных святароў. Не хавалі ад следства сваіх поглядаў, а. Серафім на пытанне аб тым, што ён казаў у час казані, калі ездзіў па Беларусі, прама адказаў, што амаль заўсёды звяртаўся да народа з заклікамі не пакідаць Святой веры Хрыстовай, бараніць яе і вяртацца ва ўлонне Праваслаўнай Царквы.

Згодна з медыцынскай даведкай у судовай справе, падпісанай лекарам унутранай турмы 31 снежня 1944 года, архімандрыт Серафім у свае няпоўныя 43 гады хварэў неўрозам сэрца, а а. Рыгор катарам страўніка і іншымі хваробамі. Іх пратрымалі пад следствам роўна 10 месяцаў, так нічога і не дамогшыся.

Спецыяльнай радай пры Народным Камісарыяце Унутраных спраў СССР 7 ліпеня 1945 года абодвум вязням вынеслі прысуд аб пазбаўленні свабоды на 5 гадоў у канцлагеры.

Іх накіравалі ў лагер Горкаўскай вобласці. Там памясцілі ў розных месцах у 12 км. адзін ад аднаго. Але ім усё ж удавалася падтрымліваць паміж сабой сувязь. А. Рыгор ведаў пра смерць а. Серафіма і пра яе абставіны: прыблізна праз год пасля вынясення прысуду архімандрыт Серафім памёр пакутніцкай смерцю ў лагеры — па афіцыйнай версіі ад сардэчнай недастатковасці.

Святар Рыгор Кударэнка, адбыўшы тэрмін у лагеры, вярнуўся ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, прыняў манаскі пострыг з імем Ігнацій. Памёр у 1984 годзе.

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

МЕРКАВАННЕ

# Вяртаемся да літвы

***Хто цяпер не чытаў кніг Міколы Ермаловіча? Хто не чуў пра Вялікае Княства Літоўскае?! Але таямніцай застаецца паходжанне слова літва, вядомае амаль 1000 гадоў: <u>Litvae, Lituae</u> з нямецкіх хронік ды, стагодддзем пазней, <u>литва</u> рускіх летапісаў.***

***Гэтае слова даўно прывабіла ўвагу навукоўцаў. Высветліць яго паходжанне спрабавалі гісторыкі і мовазнаўцы. Але даследнікі зыходзілі з канцэпцыі: літва — этнонім, славянская пераробка слова-тэрміна <u>Lietuva</u>. Яго ж выводзілі ад словаў: <u>litus</u> лац. "бераг (мора)", <u>lietus</u> жамойцкае, "дождж", <u>Lietava</u> Летаўка, прыток Віліі. Гэтым этымалогіям даў негатыўную ацэнку вядомы мовазнаўца М. Фасмер.***

Як вынікае з першакрыніц, літва — гэта не племя. Ні з нямецкіх хронік, ні з рускіх летапісаў нельга выявіць абшар першага пасялення літвы. Не вызначылі яго і археолагі. Нават у спецыяльных навуковых выданнях за этнатэрыторыю літвы падаюцца розныя мясціны. Міжрэчча Віліі ды Дзвіны, дзе знаходзяць помнікі матэрыяльнай культуры, якія прыпісваюць літве, насялялі іншыя плямёны. А той рэгіён Панямоння, які прызнаецца за "гістарычную Літву", не мае адпаведных археалагічных помнікаў.

З аналізу вядомых радкоў нямецкай хронікі — Кведлінбургскіх аналаў — *"in confinio Ruscial et Lituae"* (паміж Руссю і Літвой) вынікае (падрабязней пра гэта — далей), што слова *Lituae* азначае назву паселішча. У рускіх летапісах выразна выяўлена літва як соцыум, не звязаны ні з пэўным этнасам, ні з пэўнай тэрыторыяй. Гэтая супольнасць магла развіцца толькі з пэўнай грамадскай фармацыі ў адпаведна высокаразвітым феадальным грамадстве. Сацыяльнай базай яе ўзнікнення стаў саслоўны падзел грамадства (нобілі, вольныя, напалову вольныя, рабы).

Паводле Варварскіх Праўдаў — ранніх сярэдневяковых (V—VIII стст.) зборнікаў законаў заходнееўрапейскіх княстваў — словам *вольны* называлі непасрэдных вытворцаў — асноўную частку супляменнікаў. Над імі ўзвышалася рода-племянная ці дружынная знаць, а ніжэй іх стаяць напалову вольныя (літы, альдыі, вольнаадпушчаныя) і рабы.

Як падаецца ў адной з Праўд — Саліцкай — літы былі залежнымі ад свайго ўладара, не мелі ўласнага зямельнага надзелу, не мелі права ўдзельнічаць у народным сходзе і не маглі бараніць свае інтарэсы ў судзе. Паводле нямецкага гісторыка А. Мейцэна, адны літы служылі на сядзібе свайго гаспадара, іншыя жылі ў асобных паселішчах.

Літы феадальнага двара мелі перавагу, бо лягчэй маглі атрымаць нейкія матэрыяльныя выгоды. Царква заахвочвала ўладароў-хрысціянаў даваць волю сваім падначаленым і надзяляць іх зямлёй, за якую тыя павінны былі плаціць аброк. З гэтых аброчных людзей (censuales — чыншавікоў) землеўласнікі выбіралі асобаў, якім даручалі выкананне гаспадарчых абавязкаў, звязаных з пэўнай адказнасцю, — ляснічых, лоўчых, наглядчыкаў, цівуноў.

Цягам часу феадал пачаў браць з сабою ў ваенны паход літа як збраяносца. З літаў франкская знаць набірала сабе нават узброеную ахову, што лёгка магло павесці да пераходу рабоў у болей высокі стан. І хоць звычайна толькі саслоўе паўнапраўных, што валодала маёмасцю і публічным правам, магло ўдзельнічаць у судзе і служыла ў войску, аднак у саксаў нават ваенная служба распаўсюджвалася на літаў. А, прыкладам, гісторык П. Гек трактаваў саксонскіх літаў як "частку племені, абавязаную несці ваенную службу".

Паступова расло не толькі дзяржаўнае запатрабаванне літаў ды сацыяльная значнасць гэтай грамадскай фармацыі, А. Неусыхін падае, што і літаў, якія напачатку не з'яўляліся нават асобным сацыяльным класам, закранула дыферэнцыяцыя, у аснове якой ляжаў агульны працэс сацыяльнага расслаення грамадства. Ён вызначыў тры гіпатэтычныя катэгорыі саксонска-фрызскіх літаў з рознымі маёмаснымі правамі: 1) літы, што не мелі рабоў; 2) літы, якія мелі рабоў; 3) літы, у залежнасць да якіх маглі трапіць вольныя.

Рабамі станавіліся палонныя, захопленыя літам падчас бітвы ці набегу. Але перамагчы і вярнуцца са здабычай маглі толькі ўмелыя ваяры, статус якіх адпаведна ўзрастаў. А. Мейцэн згадвае пра "прыняцце літаў у саслоўе служылага дваранства".

Сучасны нямецкі гісторык І. Герман мяркуе, што грамадскі лад славянскіх палабскіх плямёнаў нязначна розніўся ад ладу германцаў. Ваенна-палітычная мяжа па рэках Заале і ЛАбе існавала з VII стагоддзя, аднак нельга было правесці выразную геаграфічную граніцу паміж славянскімі і германскімі паселішчамі. "Князі абадрытаў ды іншых плямёнаў... удзельнічалі ў фарміраванні феадальных дачыненняў паводле франка-саксонскага ўзору" — сцвярджае І. Герман. А, прыкладам, на тэрыторыі цюрынгаў, баварцаў з'яўляюцца ў VI—VII стст. "гурты славянскіх пасяленцаў". Яны часам асядаюць "у самастойных гаспадарках цюрынгскіх і франкскіх паселішчаў", а таксама жывуць (і выконваюць пэўныя абавязкі) "у параўнаўча самастойных вёсак пад уладай сваіх жупанаў ці вясковых старэйшынаў". А. Мейцэн падае, прыкладам, Ляўтэрбергскі дакумент 1161 года, у якім маркграфамі, пералічаныя некаторыя катэгорыі насельніцтва іх маркі: "вясковыя старэйшыны, што на іх мове называюцца *жупанамі*, і пешыя слугі — гэта *віцязі*... Рэшта *літы*, гэта смерды..."

Можна меркаваць, што і раней у палабскіх славянаў меліся літы. У гэтую сацыяльную групу трапілі збяднелыя супляменнікі ды палонныя з іншых славянскіх плямёнаў: вядомая працяглая ваенная канфрантацыя вялетаў і абадрытаў. І ў славянскіх літаў адбывалася маёмаснае расслаенне, і яны пераходзілі ў ваярскае саслоўе, аднак утваралі асобныя дружыны ці атрады. Так, А. Неусыхін прыгадвае паведамленне храніста Нітарда пра паўстанне Сталінга 841—843 гадоў у Саксоніі, калі фрылінгі (вольныя) ды сервілес (напалову вольныя — вольнаадпушчаныя, літы) прагналі з краіны сваіх паноў і сталі жыць паводле старых законаў.

Такі выразна пазначаны сацыяльны падзел паўстанцаў дае падставу гаварыць, што літы, хоць і прыроўніваліся да вольных паводле свайго майстэрства валодання зброяй, усё ж не злучаліся з імі А. Неусыхін зазначае: "Праўда, *літства* кожны раз скрупулёзна адмяжоўваецца ад свабоды (libertas) менавіта як *servitium*", г. зн. слугі залежныя.

Літскія дружыны павінны былі мець і адметную назву. Славянскія супляменнікі маглі называць такіх ваяроў, скажам, словам *літва*. Гэтая назва хаўрусу, людзей, што займаліся адной важнай для грамадства справай, утварылася з дапамогай праславянскага суфікса са зборным значэннем -tv-a>-т-в-а (параўн. беларускія *дзятва*, польскія *dziatva, towarzystwo*; расійскія *братва, паства*). Як падае М. Фасмер, пра распаўсюджанае ўжыванне новаверхненямецкага, сярэдненіжненямецкага *Lettoven* "літва" згадваў фінскі мовазнаўца В. Кіпарскі. Відаць, менавіта германцам першым давялося сутыкнуцца з літвой — прафесійнымі ваярамі. Верагодна, ад гэтага Lettoven пайшла і назва леталітоўскія плямёны.

Шматлікія войны і паўстанні аслабілі моц абадрытаў і люцічаў. Пад націскам саксонцаў найбольш вольналюбівыя, пераважна ваяры, рушылі ў выгнанне. На такое рашэнне паўплывала і пагроза хрысціянізацыі. З гуртамі славянскіх палабскіх плямёнаў пайшлі і *літва*. Яны дайшлі да Балканаў, дзе і сёння на Спрэчы, прытоку ракі Босны (водазбор Дуная) ёсць паселішча Litva. Аселі выгнанцы і па-над нёманскімі прытокамі. І да гэтага часу ў Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім, Маладзечанскім раёнах стаяць вёскі *Літва*. Яны аддаленыя адна ад адной, верагодна, таму, што крывіцкія ўладары гэтых земляў ужо ведалі пра літву-ваяроў ды пабойваліся іх еднасці, маючы за дрэнны прыклад захоп вікінгамі ўлады ў Кіеве. Полацкія князі, якім належала Панямонне, дазволілі літве асесці ў нейкіх важных для іх дзяржавы месцах. Абавязкі новых жыхароў крывіцкіх земляў засведчылі: "Аповесць мінулых часоў", што падае літву ў пераліку плямёнаў-даннікаў: Летапісец Пераяслаўля Суздальскага, які да слова літва дадаў "испръва исконнии данници и конокръмци"; Валынскі летапіс: "и послаша сторожу литва на озеро Зьяте...".

Але, верагодна, сама перш літва знайшла сабе прыстанішча на Падляшшы: на сучаснай карце ў польскім ваяводстве Ломжа пазначаны паселішча *Stara Litwa* ды *Stara Rus*. Можна меркаваць, што менавіта з гэтай мясцовасцю звязана першая вядомая нам згадка пра Літву ў хроніцы Кведлінбургскага бенедыктынскага абацтва. Як падаюць Кведлінбургскія аналы пад 1009 годам, *"in confinio Rusciae et Lituae"*, г. зн. паміж Руссю і Літвой, быў забіты вядомы хрысціянскі місіянер Бруна-Баніфацы з Кверфурта.

Папа Ян VIII пасылаў яго ў Польшчу, Венгрыю, у Кіеў, да печанегаў і, урэшце, да яцвягаў. У 1004 годзе Бруна быў пры двары польскага караля Баляслава Харобрага, і ў свой апошні місіянерскі шлях выбраўся, відаць, адтуль жа. Верагодна, гэтае падарожжа і фінансаваў польскі кароль.

Паводле падання, Бруна ахрысціў "над Бугам самога князя Націмера", праз што абодва і загінулі, бо яцвяжскія жрацы рашуча выступілі супраць спробы хрысціянізацыі. Цела місіянера выкупіў Баляслаў Харобры. Безумоўна, ён добра ведаў, куды накіраваўся Бруна, ведаў, да каго звяртацца, каб выкупіць цела місіянера. (Святы Бруна цяпер абвешчаны апекуном Ломжыцкай дыяцэзіі).

На прыбужскім Падляшшы лакалізаваў (без згадкі канкрэтных паселішчаў) месца гібелі Бруна і вядомы польскі даследнік Г. Лаўмяньскі. Каментуючы ў сваёй кнізе "Русь и норманы" звесткі Кведлінбургскіх аналаў, ён зрабіў выснову: "З гэтых запісаў відаць, што Русь даходзіла да тэрыторыі прусаў". Здзіўляе, што ў выразе *"in confinio Rusciae et Lituae"* Г. Лаўмяньскі нібы не заўважыў слова *Lituae*. Нельга ж сказаць, што гэты дасведчаны навуковец, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Літвы (Вялікага Княства Літоўскага) атаясамляе прусаў з літвою. Відаць, такім чынам Г. Лаўмяньскі абышоў верагоднае пытанне: а як жа атрымалася, што па-над Бугам на яцвяжскай (ці дрыгавіцкай) зямлі, якая з 981 года належала кіеўскаму князю Уладзіміру Святаслававічу", была яшчэ і літва? Месца ж з пасялення гэтага нібыта балцкага племені заходней Нёмана нікім, у тым ліку і самым Лаўмяньскім, не лакалізуецца.

Шкада, але і Е. Ахманьскі, таксама знакаміты польскі даследнік гісторыі ВКЛ, не зацікавіўся, што азначалі словы *Rusciae et Lituae* Кведлінбургскіх аналаў, не даведаўся, калі і чаму на Мазоўшы з'явіліся тапонімы *Літва і Русь*. Е. Ахманьскі засяродзіў увагу на даследаванні гісторыі паселішча *Абольцы* (цяпер Талачынскі р-н), частка якога называлася "літоўскі канец". На падставе гэтага факту і прозвішчаў некаторых абольскіх жыхароў ён зрабіў выснову пра ўсходнюю мяжу рассялення балтаў-літоўцаў на Беларусі.

На карце бачым яшчэ некалькі паселішчаў, якія пацвярджаюць меркаванне пра пасяленне тут літвы і русі. *Bogusze-Litewka* (недалёка ад вядомага мястэчка Grodzisk); *Kostry-Litwa* і крыху паўднёвей — *Wyliny-Rus*. Мабыць, на Мазавеччыне былі яшчэ іншыя паселішчы з падобнымі назвамі. Прыкладам, у *"Slowniku geograficznym ziem polskich i innych krajow stowianskich"* чытаем, што недалёка ад Ломжы, на правым беразе ракі Нараў знаходзіцца мястэчка Візна, якое згадваецца ў дакументах XII стагоддзя. Там калісьці стаяў старажытны горад, ад якога застаўся толькі доўгі курган. Як вядома, доўгія курганы — археалагічныя помнікі крывічоў. Дарэчы, паўднёвей Візны, але на поўнач ад *Старой Літвы*, знаходзіцца Старое Крэва. А яшчэ ў гэтым жа артыкуле "Слоўніка" паведамляецца, што горад Візна належаў калісьці князю Віценю (ён слушна падаецца за князя літоўскага — чытай: князя літвы). І там жа напісана, што "візскае староства... паводле люстрацыі 1660 года ўключала ў ліку іншых вёсак паселішчы Wierciszew al. Russ (Вярцішаў альбо Рус), Litva al. Ksieza (Літва альбо Ксенжа).

Відаць, не будзе памылкай сказаць, што мазавецкія (ці падляшскія) вёскі *Русь (Русс) і Літва*, якія трапілі ў Кведлінбургскія аналы, не маглі пазначаць ні плямёнаў, ні, тым болей, княстваў ці дзяржаваў.

Перасяленне часткі славянскіх палабскіх плямёнаў прызнаецца некаторымі гісторыкамі. У навуковы ўжытак уключаныя, прыкладам, этнонімы люцічы, вялеты як вёскі Капыльскага раёна. Беларускі эмігранцкі гісторык Паўла Урбан падае сведчанне сагі пра Тыдрэка Бэрнскага: калісь частка вільцаў-люцічаў перасялілася на ўсход, на нашыя землі. Гэтая звестка пацвярджаецца шматлікімі айконімамі ды этнонімамі нашай краіны і Мекленбургіі (ніжняе міжрэчча Лабы і Одры).

Возьмем, прыкладам, Ляхавіцкі раён. Там знаходзім пяць "балцкіх" (вёскі Дайнякі, Куршынавічы, Літва, Лотва, Яцвезь), два польскія (Ляхавічы, Мазуркі), тры ўсходнеславянскія (Крывое Сяло, Русінавічы, Сакуны — ад прозвішча дрыгавічоў) этнонімы. Такі "кангламерат народаў" з'явіўся тут праз дзяржавабудаўнічую дзейнасць вялікага князя літвы, каранаванага Наваградскага вялікага князя Мендоўга, які з шматлікіх сваіх набегаў і ваенных паходаў прыводзіў палонных і сяліў іх у паўднёва-заходнім кутку Наваградскай зямлі.

Па-над Свідроўкай, прытокам Шчары, стаяць вёскі *Рачканы і Смаленікі*. Іх назвы ніколі не падаваліся за этнонімы.

У пераліку славянскіх плямёнаў Мекленбургіі, якія ўваходзілі ў племянныя хаўрусы вялетаў і абадрытаў, знаходзім *рачанаў* і вядомых з франкскіх аналаў пачатку IX стагоддзя *смалінцаў*. Паводле А. Мейцэна смалінцы жылі паміж гарадамі Бойцэнбург і Дзёміц. Пазней яны, верагодна, перасяліліся ў Мазовію, дзе, як вынікае з дакументаў XVI ст., мелася не менш за 20 адпаведных тапонімаў-этнонімаў, прыкладам, *Smolechi, Smalechowo, Smolniki.*

Вялецкае племя *рачане* згадваецца ў дакументах Бранненскага (цяпер Г. Брандэнбург) біскупства другой паловы X ст. Месца іх пасялення дакладна не лакалізавана, але яны пакінулі сваё імя ў тапонімах з коранем *Рач-*. У шматтомным зборы дакументаў X-XIII стст. "Meklenburgische Urkundebuch" польская даследніца Мар'я Ежова выявіла назвы *Retze, Rethze ды Ritzani, Riyzani*, якія ўзыходзяць да стараславянскага *recьje* і назвы племя *recanie*. Існаванне рачанскіх паселішчаў пацвярджаецца сучаснымі нямецкімі тапонімамі: *Dorf* (далей — *D.*) Retrow, *D. Retschow, D. Ratzeburg*.

Перасяленне рачанаў з Мекленбургіі адбывалася тым жа шляхам, якім ішлі смалінцы, — праз Мазоўша, дзе ёсць адпаведныя тапонімы. Некалькі родаў асела і па-над Свідроўкай, што пацвярджаецца прозвішчамі рачканскіх жыхароў: Брэчка, Страмавус. Адпаведнікам першага могуць быць назвы: *Britzke, Britzekowe, D. Britzig* з былых акругаў Прэнцлаў, Пархім, Ростак, Шонберг. М. Ежова падае форму *Britzekowe* (з дакумента 1241 г.) як арэндную назву з суфіксам -ov-.

Другое рачканскае прозвішча (дарэчы, Страмавусаў сустракаем і ў іншых вёсках раёна) мае амаль ідэнтычны, зафіксаваны ў дакуменце 1306 г., адпаведнік — назву асобы — *Stromoyse* з-пад Вісмара. У гэтай акрузе знаходзіцца паселішча *D. Strameus*. Тапонімы, якія ўтрымліваюць другую частку прозвішча *Страмавус* можна напаткаць у дакументах з іншых мясцовасцяў, прыкладам, *Чарнавус* з-пад Ростака.

Верагоднасць перасялення палабскіх славянаў на нашыя землі пацвярджаецца прозвішчамі суседняй з Рачканамі вёскі Пашкоўцы: *Лініч, Жабік, Трыбух*. Што да першага, то ўяляецца верагодным ягонае паходжанне ад назвы племені *ліняне (гліняне)*, якое ўваходзіла ў абадрыцкі хаўрус (у дакуменце 1273 г. згадваецца *Liniz*). Прозвішча *Жабік* мае шмат адпаведнікаў: *Sabic, Sabenize, Sabene*, як зрэшты і Трыбух: *Tribuses, Tribuzes, Tribowe*, якое, мабыць, утварылася ад назвы даніны — трыбута.

У Ляхавіцкім раёне ёсць больш за 20 назваў паселішчаў, якія маюць адпаведнікі ў спісе тапомнімаў даўняй Мекленбургіі, чым ускосна пацвярджаецца, што крывічы прыйшлі на нашыя землі з Заходняй Еўропы.

Верагоднасць перасялення літвы з Мекленбургіі ў наш край пацвярджаецца, прыкладам, прозвішчам *Трысцень*. Яго маюць жыхары вёскі *Літва* ды некаторых суседніх паселішчаў Ляхавіцкага раёна. Слова Трысцень спатыкаем у згаданым зборніку дакументаў старажытнай Мекленбургіі — *Trizcen*, 1264 г., каля Шверына. А вось у дакуменце з 1232 г. слова Трысцень азначала імя, мянушку ці прозвішча селяніна з-пад Варнава, які меў луг: *Trezstini lug* "Трысценеў луг".

Нельга не згадаць, што паўвека таму ў Зарэцкім сельсавеце Лагойскага раёна была вёска *Трысцень*, спаленая падчас вайны фашыстамі. У той жа мясцовасці знаходзіцца і мястэчка Гайна, дзе каралём Ягайлам былі заснаваныя касцёл і парафія (з сямі першых у ВКЛ). Верагодна, ва ўсіх гэтых мясцовасцях, у тым ліку і ў згаданых Абольцах, жыла літва, якую Ягайла сама перш абавязаўся ахрысціць.

Звесткамі з Мекленбургскіх дакументаў пацвярджаецца і меркаванне Міколы Ермаловіча пра заходнеславянскае паходжанне вядомага з летапісаў "літоўскага" роду Булевічаў: тапонімы *Балевічы* знаходзіліся ў Стаўбцоўскім раёне, а таксама і ў Памераніі: *Bulitz, Bullen.*

Верагодна, і назва самога раённага цэнтра Стоўбцы, што па-над Нёманам, перанесена сюды з Мекленбургіі, бо і там у акругах Варэн, Гюстраў, Пархім, Шверын, Шонберг знаходзіліся паселішчы *Stolp, Stulp, Stholpe, D.Stolpe, D. Stolp-See.*

Новыя доказы на карысць прапанаванай гіпотэзы дае далейшы аналіз арыгіналаў дакументаў, надрукаваных у выданні "Meklenburgisches Urkundenbuch".

**Здзіслаў СІЦЬКА**



*На здымку: Кведлінбург. Замак і абацтва, дзе захоўваліся Кведлінбургскія аналы. З ілюстраванай "Энцыклапедыі Тшаскі, Эвэрта і Міхальскага". 1927 г.*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Беларуская энцыклапедыя": дзесяты том

**Пераадолеўшы свайго роду перавал у падрыхтоўцы і выданні 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі", калектыў, які працуе над ёю, не збіраецца адпачываць, а ўпэўнена шчыруе над чарговымі тамамі. Адзін з іх — дзесяты па ліку — нядаўна з'явіўся ў кнігарнях. Як і папярэднія, аб'ёмны: змешчана не адна тысяча артыкулаў. Як і папярэднія, багата ілюстраваны: агульная колькасць такога матэрыялу ўключае 787 назваў, з іх 211 партрэтаў, 48 карт.**

**А ахоплівае дзесяты том словы ў прамежку "Малайзія — Мугаджары". Пра Малайзію, бадай, чулі многія і ведаюць, што гэта дзяржава (поўная назва Федэрацыя Малайзія) у Паўднёва-Усходняй Азіі. А Мугаджары — горы ў Акцюбінскай вобласці Казахстана.**

**Ды энцыклапедыя — на тое і энцыклапедыя, каб лёгка можна было знайсці патрэбныя звесткі, а паколькі "Беларуская энцыклапедыя" адносіцца да тых, якія называюцца універсальнымі, матэрыялы, прадстаўленыя ў ёй, не абмяжоўваюцца беларускай тэматыкай. Можна прачытаць пра розныя краіны, атрымаць звесткі па розных галінах ведаў. Аднак, вядома, на першым плане ўсё ж беларускі матэрыял. Але і пры яго разнастайнасці, у кожным томе абавязкова ёсць тое, што вылучае яго сярод іншых.**

**У дзесятым, бадай, гэта матэрыялы, якія ў той ці іншай ступені звязаны са сталіцай нашай дзяржавы горадам-героем Мінскам. У першую чаргу трэба назваць артыкул "Мінск", які нагадвае міні-даследаванне, дзе прасочваецца жыццё горада ад яго ўзнікнення па сённяшні дзень. Падраздзелы "Гісторыя", "Гаспадарка", "Архітэктура і горадабудаўніцтва", "Помнікі", "Асвета" і іншыя дазваляюць убачыць Мінск, як кажуць, зблізку. Багатыя на інфармацыю і такія, як "Друк, радыё, тэлебачанне", "Літаратурнае жыццё", "Мастацкае жыццё", "Музычнае жыццё", "Тэатральнае жыццё", "Фізічная культура і спорт"...**

**Узяць, для прыкладу, падраздзел "Друк, радыё, тэлебачанне". Першыя друкаваныя кнігі ў Мінску з'явіліся ў канцы XVI стагоддзя. Мяркуецца, што ў 1595 годзе на беларускай мове ў Мінску выйшаў палемічны трактат М. Сматрыцкага, накіраваны супраць твора "Унія..." епіскапа І. Пацея. І дакладна вядома, што з 1616 года пры Святадухаўскім мужчынскім манастыры працавала друкарня. А першая прыватная друкарня належала І. Дворжацу і была заснавана ў 1826 годзе. У ёй выдаваліся кнігі на беларускай, рускай і польскай мовах.**

**І артыкулы, вытворныя ад слова Мінск: "Мінскае...", "Мінская...", "Мінскі..." і іншыя (а іх не адзін дзесятак) утрымліваюць багатую інфармацыю. Так у артыкуле "Мінская духоўная акадэмія імя свяціцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага" расказваецца пра вышэйшую навучальную ўстанову Беларускага экзархата, заснаваную ў 1996 годзе ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёна. Цікава, што ў духоўнай акадэміі вывучаюцца не толькі багаслоўныя дысцыпліны, а і гісторыя Беларусі, беларуская культура, філасофія...**

**А ўвогуле, энцыклапедыя — кніга не для чытання, а для розных даведак. Тым, хто не паспеў набыць дзесяты том, раім паспяшацца зрабіць гэта.**

**А. М.**

## "Маладосць", N 8

**У нумары змешчаны вершы Г. Касач, І. Лосіка, Г. Каржанеўскай, В.Сахарчука, В. Гарановіча, М. Мятліцкага. У празаічным "сшытку" — кароткія апавяданні Г. Панамарэнкі "Госць" і "Амялушкі", апавяданні В. Вольскага "У вайну..." і "Споведзь", апавесць У. Саламахі "Там, дзе самота і радасці...", пачатак сямейнай хронікі У. Глушакова "Чарнобыльскі шлях, або Развітанне на пачатку вясны". "Пад крэп-дзеразою, пад ядзерам..." — падарожжа В. Ракава на сваю радзіму. На жаль, апошняе... В. Тумель выступае з дакументальнымі гісторыямі "Як ледзь не закрылі слуцкі піўзавод", "Самаабслугоўванне", "Мішка з вуліцы Васняцова", "Куды прапала серабро?". В. Жушма ("Чытанне са слязой на вейках") разважае над кнігай прозы У. Сітухі "Сваты". "Беларуска-рускі слоўнік для школьнікаў" А. Булыкі — у полі зроку А. Вароніна ("У рэчышчы часу"). А. Мельнікава рэцэнзуе аповесць К. Тарасава "Апошняе каханне князя Міндоўга" ("Вяртанне Міндоўга").**

ВАРУНКІ

# Апошнія з магікан?

Пачнём з анекдота? Каб жа то быў анекдот. У Навалукомлі пытаюся ў мужчыны сярэдніх гадоў:

— Дзе ў вас тут бібліятэка?

Напэўна, дарэмна запытаўся. Мужчына не інтэлігентнага выгляду, такія ў бібліятэку не ходзяць. Але беларуская зычлівасць бярэ верх над няпэўнасцю, і ён ківае мне пальцам:

— Вунь, бачыце, круглыя вокны. Там яшчэ шыльда напісана: "Кнігарня".

— Кнігарня, — цярпліва тлумачу, — гэта кніжны магазін, а не бібліятэка.

Пазірае на мяне, як на хворага. Ці то не можа даўмецца, якая розніца паміж кніжным магазінам і бібліятэкай, ці то яму ўсё роўна, што такое кнігарня. Галоўнае, што не гастраном.

Падыходжу да кнігарні, і, пакуль яна зачынена, спыняюся на ганку. Падыходзяць дзве яшчэ даволі маладыя жанчыны. Адна на выгляд гарадская, а другая, ні ў кога не пытайся, з нашай беларускай вёскі. Нашых сялян не зблытаеш ні ў Парыжы, ні ў Чашніках. Не са здзекам кажу, а з гаркотай і болем. Каб сам быў з якога вялікага горада, а то ж кожны дзень бачу гэтых самых вяскоўцаў з парэпанымі рукамі, з дачасна ўчарнелымі тварамі, як сама зямелька. Сэрца крывёю абліваецца.

Здзіўлена пытаюся:

— Вы ў кнігарню? Няўжо ёсць людзі, якія яшчэ купляюць кніжкі?

Гарадская абачліва маўчыць, а вясковая кабета нават рада, што зачапіў, ёсць з кім падзяліцца набалелым:

— Ды не, якія ж у вёсцы кніжкі, чалавеча? Сына во прыехала ўладкоўваць у вучылішча. А вы, часам, не ведаеце, ці ёсць тут такая спецыяльнасць, каб на трактарыста і на шафёра?

— Не ведаю, але, па-мойму, тут даюць правы на розныя віды транспарту.

— Дык то пасля дзевяці класаў, я ўжо даведвалася, а наш пасля адзінаццаці.

— Ну, хто ж гэта заканчвае адзінаццаць класаў для таго, каб пайсці на трактарыста? — дзіўлюся я.

— А куды ж я яго адпушчу далёка, у свет як у капейку, — апраўдваецца жанчына, — малы ж яшчэ зусім...

Для матак дзеці застаюцца малымі да сівога воласа... А далёка зараз і праўда не адпусціш, не выкарміш студэнта за блізкім светам, асабліва па цяперашнім заробку ў калгасе. Дый свет стаў няціхі, боязна далёка адпускаць. А ў вёсцы кніжак няма калі чытаць, і тым болей, няма за што іх купляць. Дый навошта? На хлеб не намажаш...

Хутка дзесяць гадзін, і да дзвярэй прастуе маладзенькая, інтэлігентная на выгляд асоба. Знаёмімся. Святлана Піваварава, прадавец.

— А загадчыца наша ў адпачынку, — апраўдваецца яна, даведаўшыся, што я з рэдакцыі, — можа, трэба было б лепей з ёю сустрэцца?

— Значыць, будзем размаўляць з вамі, — заяўляю безапеляцыйна і ўжо бачу, што сапраўды размова ў нас атрымаецца.

У кнігарні, аднак, працуюць не звычайныя прадаўцы, а народ высокаінтэлектуальны. Цікава, іх сюды спецыяльна падбіраюць, альбо гэта прosты збег абставін?

Запытаўся ў Святланы.

— Вядома, ёсць адбор, — адказала яна, — па-першае, наша загадчыца сама вельмі неардынарны чалавек. Тамара Кузьмінічна, не ведаю, ці гэта ёй удаецца, але паспявае прачытваць хаця б збольшага літаратуру, якая паступае да нас. Умее прыахвоціць да размовы любога, хто заходзіць сюды. А ходзяць, паверце, не толькі каб купіць кнігу. Некаторыя прыходзяць сюды выгаварыцца. Вядома ж, і ад нас, прадаўцоў, патрабуецца, каб мы валодалі інфармацыяй пра тавар, які прадаём. Працаваць у кнігарні і быць звязнелым інтэлектуальна? Што вы?

— Не на рынку семкі прадаваць?

— А я, між іншым, працавала і на рынку...

Святлана па прафесіі педагог. Рабіла настаўніцай у сельскай школцы, у пачатковых класах. А потым пайшла да загадчыка аддзела адукацыі, паклала яму на стол заяву і сказала:

— Пайду працаваць на рынак.

Той не паверыў. Час быў не такі. Тады яшчэ настаўнікі дужа на рынак не хадзілі гандляваць. А яна ўзяла і пайшла...

— Напэўна, — кажу, — прадпрымальнікі — гэта асаблівыя людзі. Уявіце, трэба ведаць, куды паехаць, дзе закупіць тавар, як яго закупіць. Для майго ўяўлення, напрыклад, паездка ў тую ж Маскву — тое самае, што палёт у космас...

— Для мяне, бадай, таксама ж, але я была не прадпрымальнікам, а проста прадаўцом. І ўсё ж зразумела, што гэта не маё. Тут я таксама проста прадавец. Але мне падабаецца. І потым, вялікае значэнне мае калектыў. Света Папова — гэта наш другі прадавец — цікавіцца рознай нетрадыцыйнай медыцынай і лекамі, я спецыялізуюся па дзіцячай, па метадычнай літаратуры, Тамара Кузьмінічна, як я і казала, прыроджаны інтэлект, цікавы суразмоўца. Ну, у яе і часу крыху болей пачытаць, бо не на касе...

І чытач свой у нас ёсць. Я напачатку, калі прыйшла, бачу, ляжаць кніжкі, ніхто не купляе. А мне Тамара Кузьмінічна кажа: "Света, павер, у кожнай кніжкі знойдзецца свой пакупнік". Ёй лепей ведаць, бо яна тут ужо столькі гадоў працуе.

— І знаходзяцца?

— Вядома. Вы, напэўна, думалі, што зайшлі ў паміраючы магазін, але гэта не так, план нам, вядома, выканаць цяжка, каб быць рэнтабельнымі, але...

— Я не думаў, я проста ўпэўнены, што вы — "апошнія з магікан". Якія ўвогуле планы можна даводзіць у сферы культуры і асветніцтва? Гэтак мы ўвогуле дойдзем да таго, што і сапраўды інтэлект пачнём кілаграмамі ўзважваць. Ну, хто, скажыце, вашы пакупнікі?

— О, мы сваіх пакупнікоў ведаем у твар!

— Прабачце, у вас не крадуць?

— На жаль, крадуць. Разумееце, у асобных людзей ёсць такая хвароба. Ну, а дзе вы бачылі яшчэ краму, дзе б тавар ляжаў вось так адкрыта? Патрэбна вока ды вока.

— А якія кнігі купляюць, акрамя класікі?

— Не іранізуйце. Класіку таксама купляюць, хаця і вельмі мала. Ахвотней бяруць дэтэктывы.

— Скажыце, хто іх бярэ? І навошта? З якой мэтай? Няўжо можна збіраць бібліятэкі вось гэтых шэдэўраў маскультуры?

— Ёсць і такое. Асабліва купляюць людзі, якія прывучаны здаўна збіраць бібліятэкі. Прыходзіць, возьме адну кніжку, спадабаецца, і потым збірае ўсю серыю гэтага аўтара. Наступная катэгорыя пакупнікоў — людзі забяспечаныя, прыходзяць

# Пералетаваўшы лета

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)

❑

Пісьмы Мікалая Забалоцкага з ленінградскіх "Крестов" (турма) і Камсамольска-на-Амуры, з лагера НКВД.

Ведаў, але ўсё забываюся, што яго сябры — Д. Хармс і А. Ведзенскі былі таксама арыштаваны і з турмы не вярнуліся.

А колькі ж згінула нашых, беларускіх літаратараў, разам з неадасланымі пісьмамі і нерасказанымі ўспамінамі. А каму пашанціла выжыць, застаўся да скону дзён сваіх глухім і нямым. Як, для прыкладу, Ян Скрыган, — ні радка пра мінскую "амерыканку" і глухую, панурую тайгу.

Прыгадваецца адзін толькі яго горкі, балючы, што вярэдзіў сэрца, успамін, калі ён з высылкі вярнуўся ў Мінск і пеша выправіўся ў Каралішчавічы да Броўкі, былога сябра, па справе якога, дарэчы, і сядзеў, каб пазычыць які рубель. "Няма якраз грошай пры сабе, — змахляваў, вядома, хітраватыя і асцярожны Броўка. — Спытай у Хадкевіча, ён толькі што выдаў раман". Але і ў Хадкевіча, як аказалася, па кішэнях гуляў вецер. Вярнуўшыся з нічым у Мінск, знявераны лагернік завітаў нарэшце да скульптара Азгура, таксама колішняга сябра, і той не схітрыў — пазычыў тысячу. Яна яшчэ была нязначна-благенькай, дарэформеннай. Але чалавек пазычыў, каб застацца чалавекам.

❑

Не сплю з трох — ледзь толькі задрамалася. Перагортваю старую "Иностранку", зазіраю то ў апавяданне Джона Апдайка, то ў аўтабіяграфію Акіра Курасава. Яны, амерыканцы і японцы, нават пра трагічнае пішуць з лёгкасцю, мы ж пра лёгкае гаворым з доляй трагізму.

Не магу вызначыць, якая ж мяжа разлучае нас. Яна, нібы прамень лазера, — нябачная. Але даволі пусціць тытунёвы дым — і прамень засвеціцца прыгожым фіялетавым ці, можа, праўдзівей, ружовым колерам.

❑

Інакш не падумаеш: усё робіцца сумысле, каб адбіць цікавасць да беларускага хрысціянскага слова. Школьныя падручнікі запаўняюцца адкрытай, паточанай моллю, састарэлай графаманіяй, карэспандэнты радыё падбіраюцца з гугнява-гаркавымі галасамі, а дыктары тэлебачання — з непрывет-на-панурымі тварамі.

Тут, як сказаў бы Гогаль, бацька быў Акакі, так няхай і сын будзе Акакі.

❑

Набеглі на памяць нечыя вершы, прымітыўна-спрошчаныя, пяцідзесятых гадоў, пары майго маладога, безразважнага захаплення паэзіяй. Помніцца, колькі ўсяго непатрэбнага было прачытана з юнацкім неабдуманагарачым запалам. Тымчасовае ў прозе зухавата-ганарыстых Б., з яго ўзнёсла-жаваранкавымі, слязліва-лірычнымі апавяданнямі. Яны, праўда, былі вышэй прыніжанай калгаснамеліярацыйнай ці каксагызавай навелістыкі. Проза з бульдозерамі, грэйдэрамі, з кельмамі, сякерамі, з неадлучнымі персанажамі — тынкоўшчыкамі, мулярамі. І ўсё падагнана пад аднолькава шаблонную назву — мірныя нябёсы. Божа, ці ж варта ўсё гэта прыгадваць і ўспамінаць.

❑

Дастаеўскі ў сваіх запісных сшытках: "У нас всё вдруг, выдумали чехов — холодных, безучастных, враждебных к юношеству, не знающих русского языка и свысока смотрящих на русский язык".

Не дзіва, што ў жніўні 1968-га рускія танкі ўвайшлі ў Прагу, каб раздушыць сталёвымі гусеніцамі свабоду і незалежнасць "выдуманых" чэхаў.

Але — што ж такое рускі па Дастаеўскаму?

"Рускі народ увесь у праваслаўі і ў ідэі яго. Больш у ім і ў яго нічога няма — ды і не трэба, таму што праваслаўе ўсё... Хто не разумее праваслаўя — той і нічога не зразумее ў народзе.

А наша інтэлігенцыя з чухонскіх балотаў прайшла міма. Крыўдуе, калі ёй кажуць, што не ведае народа".

Заступаючыся за праваслаўе і пакорны гэтаму праваслаўю народ, велешаноўны спадар Дастаеўскі не менш упарта і адчайна заступаецца і змагаецца за сябе:

"Пры поўным рэалізме знайсці ў чалавеку чалавека. Гэта руская рыса пераважна, і ў гэтым сэнсе я канешне "народен" (бо накірунак мой выцякае з глыбіні хрысціянскага духу народнага), — хоць і невядомы рускаму народу цяперашняму (гэта пісалася ўжо напярэдадні смерці, — **В. А.**), але буду вядомы прышламу".

❑

"Стыль — гэта сам чалавек", — сказаў французскі натураліст Жорж-Ліф Бюффон. Два з палавінаю вякі таму, калі яго выбіралі ў акадэмію. І колькі ўжо гадоў мы паўтараем вядомыя словы.

❑

"Жыццё не ёсць ні мэта, ні сродак — жыццё ёсць права" — сцвярджаў Генрых Гайнэ, паўтараючы некага з французскіх філасофаў.

Гэтага дамагаюцца ўсе разумныя людзі, але вар'яты, якія прашыліся да неабмежаванай улады, заўсёды насаляюць смерць.

На палігоне ўзрываюцца стрэлы — чалавек вучыцца забіваць чалавека.

❑

Прыгорблены адзінокі сталініст на дачнай дзялянцы, не зварачаючы ўвагі на касы сонечны дождж, што нечакана праліўся на зямлю, упарта душыць сябе ў працы — акучвае бульбу. Яго беражэ, пускаючы цягучую сліну, крывалапы бульдог. Уяўляю, як кроплі прэснага дажджу, сцякаючы з чала, мяшаюцца з кроплямі салёнага поту. І як пад мільганне сталёвай драпкі варочаюцца і душаць яго аднастайныя думкі: развалілі імперыю, раскралі яе багацтва, а цяпер во — заводзяць гэшэфт з Амерыкаю.

❑

На стале — жоўты томік з уклееным карычневым партрэтам Кузьмы Чорнага. Такі самы, які некалі браў у мястэчковай бібліятэцы і па цэлым тыдню трымаў дома.

З тае ўзнёсла-юнацкае пары так і помніцца, нібы вершаваныя радкі, сказы з чорнаўскіх імпрэсій: "У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры". Хацелася, вядома, пераймаць таемныя алегорыі, усё нязвыклае харастэо чорнаўскай мовы, блізкай да нашай варакомскай гутаркі: "Вечарамі на зямлю лажыцца шэрая ціш. Поле пахне аўсяным ржышчам і вялаю атавою, а цесныя двары пры маўклівых хатах — конямі і дзёгцем".

Вось ізноў пазіраю на хваравіты, адутлаваты твар (Тады не ведалася, што гэта

